Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 51 (4800) 24 снежня 2014 г.





**Глыбокапаважаныя чытачы газеты «Літаратура і мастацтва», браты і сёстры, усе людзі добрай волі!**

Свет Заходняга хрысціянства адзначае адно з самых любімых і папулярных святаў — Раство Хрыстова, калі думкамі мы пераносімся ў далёкі Батлеем, дзе Бог стаўся чалавекам.

Бог стварыў чалавека і палюбіў яго да канца. Палюбіў нават тады, калі пакараў за непаслухмянасць, бо паабяцаў пасланць Збаўцу. І вось, калі і прыйшла поўня часу, ён пасланў у гэты свет свайго Адзінароджанага Сына, які ўцелавіўся, стаў ва ўсім, акрамя граху, падобны да чалавека. Бог стаўся адным з нас, каб мы ў сэнсе Божай ласкі сталіся такімі, якім ёсць ён.

Прышэсце Божага Сына стала зваротным пунктам у гісторыі чалавецтва. З гэтага моманту Бог у вобразе чалавека спадарожнічае яму на жыццёвым шляху. Бог схіліўся над грэшным чалавекам і не цураецца яго. Гэта не што іншае як цуд Батлеемскай ночы, як прыемны сюрпрыз, якім ён адарыў чалавецтва.

Сёння, у часы адыходу ад маральных нормаў, калі лагічнае становіцца нелагічным, а Божы закон — абсурдам, нам неабходна дазволіць яму дакрануцца да нас, каб духоўна аздаравіць і абагавіць.

Таму святы Божага Нараджэння не могуць абмяжоўвацца толькі святочнымі звычаямі і падарункамі, але павінны стаць часам адкрыцця дзвярэй нашых сэрцаў на прышэсце Бога, каб яны сталі Батлеемам нашага часу.

Са святам, дарагія браты і сёстры, усе людзі добрай волі!

Віншую рэдакцыю і чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва» і жадаю, каб яна спрыяла новай евангелізацыі нашага грамадства. Віншую сваіх адзінаверцаў католікаў і іншых хрысціян, якія разам з намі адзначаюць гэтае свята. Віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія перажываюць Адвэнт і рыхтуюцца да святаў Раства Хрыстова. Розніца календароў і традыцый не з'яўляецца розніцай веры ў праўду Богаўцелаўлення. Сёння, перад выклікамі сэкулярызму і шматлікімі крызісамі, у якіх знаходзіцца сучасны свет, неабходна разам абвяшчаць існіну Евангелля і бараніць хрысціянскія каштоўнасці. Няхай праўда пра прышэсце Сына Божага ў гэты свет падштурхне нас да сумеснага сведчання хрысціянства.

Хрыстус нарадзіўся, Бог уцелавіўся!

Радасных, поўных Божай ласкі святаў Раства Хрыстова і шчаслівага Новага года ўсім вам!

**Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

# Час верыць у цуды



Фота Кастуся Дробава

Вы паверыце, што старонкі энцыклапедыі проста неверагодным чынам ажывалі на вачах, першапачатковыя кошты на кнігі дзеля дапамогі дзецям узрасталі ў дзясяткі разоў, а лепшыя выданні года сталі цацкамі на ёлцы? Гэта ўсё сапраўды было! У перадсвяточныя дні цуды здараюцца часта, асабліва калі гаворка ідзе пра Калядны дабрачынны баль і аўкцыён кнігі.

Сёлета ён адбыўся ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. У якасці арганізатараў свята, што прайшло ў сталіцы ўжо трэці раз, выступілі Міністэрства інфармацыі Беларусі і Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку. Сродкі, атрыманыя падчас аўкцыёну кнігі, будуць перададзеныя ў сацыяльныя дзіцячыя ўстановы краіны.

Нягледзячы на амаль звыклы фармат Каляднага балю, што склаўся за папярэднія гады, сёлета ён адзначыўся новымі рысамі. Так, змянілася месца правядзення, а падчас дыбрачыннага аўкцыёну быў упершыню прадстаўлены пастаянны лот — «Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі». Выхад гэтай унікальнай кнігі ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» быў прымеркаваны менавіта да Каляднага балю кнігі. Адсюль — незвычайны оперны фармат свята, адмысловая прэзентацыя праекта з выкананнем артыстамі Вялікага нацыянальных і класічных арый, музычнае суправаджэнне аркестра.

Праца над «Вялікай энцыклапедыяй Вялікага тэатра» вялася ў «БелЭн імя П. Броўкі» каля двух гадоў. Кніга адлюстроўвае творчы шлях і ролю Вялікага тэатра Беларусі ў культурнай прасторы краіны з моманту яго стварэння ў 1933 годзе і па сёння. На стронках выдання — велізарная колькасць архіўных фота, многія з якіх апублікаваныя ўпершыню. Усяго ў энцыклапедыю ўвайшло каля дзвюх тысяч архіўных і сучасных здымкаў і больш як 600 артыкулаў, прысвечаных спектаклям, артыстам, кампазітарам, рэжысёрам, дырыжорам, хормайстрам, балетмайстрам, мастакам, кіраўнікам тэатра. Атрымаўся сапраўды ўнікальны праект, які распавядае пра 80 гадоў гісторыі Вялікага тэатра Беларусі.

Чытайце на стар. 9 ▶

*Стасункі*

# Іспанія. Мадрыд

**Першы «Беларускі вечар у Мадрыдзе» і дыпламатычны прыём ад імя Пасольства Беларусі ў Іспаніі (па сумяшчальніцтве) адбыліся ў іспанскай сталіцы.**

Падчас вечарыны пасол Беларусі Павел Латушка правёў перамовы з прадзюсарскай кампаніяй «PADEDE INTERTAINMENTS S.L.» аб арганізацыі ў снежні 2015 года камерцыйных гастроляў Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў іспанскіх рэгіёнах Валенсія і Каталонія.

Адбылася прэзентацыя казкі «Вежа Міру» Максіма Багдановіча. Гэты твор перастварыла па-іспанску Анастасія Кузменка — грамадзянка Беларусі, якая жыве ў Мадрыдзе. Мяркуецца, што пераклад у новым годзе пабачыць свет у адным з іспанскіх выдавецтваў. Таксама адбылася прэзентацыя перакладаў на іспанскую мову беларускіх, рускіх і ўкраінскіх казак, якія перастварыла Ганна Петрусь.

Яскравай часткай вечара стала выступленне хору іспанцаў. Спевакі выканалі беларускія народныя песні па-беларуску і ў перакладзе на іспанскую.

Перад прадстаўнікамі беларускай дыяспары і дзяржаўных устаноў Іспаніі выступіў Павел Латушка, які адзначыў актывізацыю беларуска-іспанскага супрацоўніцтва як у эканамічнай, так і ў гуманітарнай сферах, выказаў асаблівую ўдзячнасць нашым суайчыннікам за любоў да этнічнай Радзімы, захаванне традыцый і мовы.

У Іспаніі праходзіць і выстаўка сучаснага беларускага мастака Віктара Альшэўскага ў г. Эль-Эскарыяль (непадалёк ад Мадрыда). Прадстаўленыя творы прысвечаны помнікам гісторыі і культуры нашай краіны.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Вершы Гродзеншчыны

**Сталі вядомыя імёны пераможцаў літаратурнага конкурсу «Гродна — культурная сталіца Беларусі 2014», ініцыяванага Гродзенскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і праведзенага сумесна з галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама ды Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкай імя Я. Карскага.**

Адпачатку конкурсная праграма прадугледжвала дзве намінацыі. Але ў намінацыі «Эсэістыка» конкурс не адбыўся, бо ў літаратурнай палітры сучаснае Гродзеншчыны пераважае паэзія.

Конкурс праходзіў у тры этапы. На першым літаратары — і аматары, і майстры — дасылалі як адзінкавыя творы, так і лірычныя нізкі вершаў, якія размяшчаліся на афіцыйным інтэрнэт-сайце Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ. Там жа можна было пазнаёміцца з біяграфіямі аўтараў.

На другім этапе конкурсу экспертная камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Гродзенскага аблвыканкама, абласной бібліятэкі, члены СПБ і супрацоўнікі кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Янкі Купалы, вызначыла пераможцаў, разгледзеўшы працы 21 канкурсанта.

Тэматычны вечар паэзіі «Табе, наш любы Гродна», прысвечаны заключнаму, трэцяму, этапу конкурсу, адбыўся ў Гродзенскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.

Першае месца ў конкурсе аднагалосна было аддадзена члену СПБ, паэтэсе з вёскі Стральцы Мастоўскага раёна Ірыне Данік. Другога ўдастоены паэт, бард, член СПБ Анатоль Апанасевіч, трэцяга — аспірантка ГрДУ імя Янкі Купалы Таццяна Лашук з Ліды. Уладальнікам прыза глядацкіх сімпатый стаў малады паэт з Гродна, член СПБ Антон Янкоўскі. Спецыяльным прызам і дыпломам СПБ узнагарвана паэтэса і педагог з вёскі Скрыбаўцы Шчучынскага раёна Наталля Цвірко.

Кожнаму ўдзельніку быў уручаны сімвалічны карт-бланш на далейшае творчае супрацоўніцтва з Гродзенскім абласным аддзяленнем СПБ.

**Дзмітрый РАДЗІВОНЧЫК**

# Творчы падарунак дзецям

**На творчую сустрэчу з пісьменнікамі ў Аршанскую дзіцячую бібліятэку імя У. С. Караткевіча завітала старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка.**

Адна з галоўных тэм, якую закранулі творцы, — роля айчыннай літаратуры ў гарманічным развіцці грамадства. «Унёсак кожнага аўтара вельмі каштоўны, — падкрэсліла Тамара Іванаўна. — Асобна хацелася б адзначыць шматгадовую дзейнасць пісьменнікаў Галіны і Сяргея Трафімавых — аўтараў больш як 100 навукова-пазнавальных кніг, дапаможнікаў і падручнікаў для дзяцей».

Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі госця ўручыла Галіне Трафімавай медаль «За вялікі ўклад у літаратуру» і Ганаровую грамату Віцебскага абласнога аддзялення СПБ.

У бібліятэцы імя А. С. Пушкіна прайшла сустрэча са школьнікамі, якія добра знаёмыя з творчасцю віцебскай паэтэсы. У падарунак Тамара Краснова-Гусачэнка пакінула бібліятэчнай сістэме Аршанскага раёна свае кнігі, што пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда». Займальныя творы дапамагаюць спасцігаць навакольны свет, раскрываюць лепшыя чалавечыя якасці.

За вялікі ўнёсак у развіццё культуры і прапаганду айчыннай літаратуры Ганаровымі граматамі Віцебскага абласнога аддзялення СПБ узнагароджаны начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Аршанскага райвыканкама Ганна Святлова і дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Святлана Жвікава.

**Вольга ЛЕБЕДЗЕВА**




# Прэзентацыя без аўтара

Прэзентацыю беларускамоўнага выдання сваёй кнігі «Вайзэр Давідзік» вядомы польскі пісьменнік Павел Гюле наведаць не змог. Перашкодзіла котка, якая перабягала дарогу перад яго аўто...

І пакуль у Гданьску творца лячыў нагу і рамантаваў машыну, беларускія аматары якаснай літаратуры сустрэліся ў Мінску з перакладчыцай рамана Марынай Шода.

«Павел Гюле стварае літаратуру з усяго, што яго акружае, — з усяго жыцця», — упэўнена спадарыня Марына. Дарэчы, пра свой Гданьск, у якім і адбываюцца падзеі рамана (праўда, пасляваеннага часу), аўтар парупіўся распавесці перакладчыцы асабіста: запрасіў у горад, правёў па старых могілках, паказаў, дзе была ўзарваная чыгунка... Хаця б віртуальна, дзякуючы майстэрству артыста Рамана Падалякі, госці імпрэзы таксама змаглі апынуцца ў «горадзе, што падпарадкуецца літаратуры, якую пра яго ствараюць», і нават завітаць на нявераговы футбольны матч...

«Вайзэр Давідзік» можна было б параўнаць з «Гары Потэрам», але, баюся, не на карысць апошняга — прынамсі, па адукаванасці творцы, інфармацыйнай насычанасці матэрыялу і глыбіні адлюстравання часу ў рамане. Чытайце аналіз гэтага твора ў адным з наступных нумароў «ЛіМа».

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Прынятыя ў СПБ



**Наталля Пятроўна АЗАРАНКА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 22 жніўня 1973 года ў в. Бароньки Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум імя А. С. Пушкіна. Працавала загадчыцай Гліньскай сельскай бібліятэкі, метадыстам Касцюковіцкага раённага Цэнтра культуры, пазаштатным карэспандэнтам раённай газеты «Голас Касцюкоўшчыны». Аўтар паэтычнага зборніка «Небесных мыслей зеркала» (2012).



**Настасся Мікалаеўна НАРЭЙКА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў г. Маладзечна Мінскай вобласці. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе адказным сакратаром у камянецкай раённай газеце «Навіны Камянеччыны». Суаўтар калектыўных зборнікаў. Аўтар паэтычнага зборніка «Магдэбургскае права маёй душы» (2013).



**Ірына Аляксандраўна КАРНАУХАВА**

*Секцыя дзіцячай літаратуры*

Нарадзілася 23 лістапада 1958 года ў г. Баранавічы Брэсцкай вобласці. Скончыла Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі і Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага. Працавала настаўнікам у Мачулішчанскай музычнай школе, у Мачулішчанскай СШ, у СШ № 75 г. Мінска, дырэктарам Міханавіцкай школы мастацтваў Мінскага раёна, загадчыкам аддзела аматарскай творчасці Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Цяпер — кіраўнік народнага клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў Мінскай вобласці «Жывіца». Суаўтар калектыўных зборнікаў. Аўтар паэтычных зборнікаў «За неделю до зимы» (2008), «Нехочуха» (2010), «Следы» (2010), «Бука-Макука» (2012), «Темы и вариации» (2013), «Нужная книжка для девчонок и мальчишек» (2013).

# Ад Коласавага парога

Творчы вечар маладой паэтэсы і празаіка Дар'і Лёсавай прайшоў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Гэта культурная ўстанова стала месцам правядзення першай у творчым жыцці пісьменніцы вечарыны невыпадкова. Тут ужо не першы год адбываецца своеасаблівае пасвячэнне ў прафесійныя пісьменнікі сталічных літаратараў, прынятых у СПБ. Вось і гэтым разам на пачатку імпрэзы яе вядучы — старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў — урачыста ўручыў Дар'і членскі білет ды значок Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вінаўніцу ўрачыстасці павіншавалі калегі па творчым саюзе, а таксама Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.

Дар'я ўзнёсла чытала свае вершы, дзялілася шчырымі пачуццямі, з удзячнасцю згадвала тых, хто некалі заўважыў і падтрымаў яе ў творчых памкненнях.

**Павел КУЗЬМІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**26 снежня** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак у 14.30.*

**28 снежня** — *на сустрэчы з пісьменнікамі аддзялення, аўтарамі выдавецтва «Мастацкая літаратура», якія адбудуцца з 13:00 да 19:00 у Цэнтральным кніжным магазіне (пр. Незалежнасці, 19).*

**30 снежня** — *на арганізацыйнае пасяджэнне клуба мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзе, 5, каб. 308). Чакаем жадаючых дэкламаваць творы на літаратурных вечарах. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Шаноўныя чытачы!**

*Звяртаем вашу ўвагу на тое, што чарговы нумар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выйдзе ўжо ў наступным годзе — 9 студзеня.*

# Дні Лынькова векапомныя

**Днямі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва адкрылася выстаўка «Летапісец векапомных дзён», прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння Міхася Лынькова. Прэзентацыя экспазіцыі сабрала ўсіх нераўнадушных да творчай спадчыны майстра. Прадстаўлены рэдкія фотаздымкі Лынькова і яго сяброў, біяграфічныя дакументы, лісты, успаміны пра пісьменніка, фрагменты чарнавікоў некаторых твораў ды інш.**

Дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка распавяла пра стварэнне асабістага фонду М. Лынькова, акрэсліла значэнне пісьменніка для беларускай літаратуры. Віктар Жыбуль, вядучы навуковы супрацоўнік установы і аўтар выстаўкі, распавёў пра ідэю яе стварэння, працу над экспазіцыяй. Госці, сярод якіх былі ўнучка М. Лынькова Ірына Ратнікава, паэт Анатоль Вярцінскі, даследчык і перакладчык Міхась Кенька, навуковец Аляксандр Вашчанка, распавялі свае гісторыі знаёмства з Міхасём Лыньковым. Напрыклад, унучка Міхася Ціханавіча лічыць, што менавіта дзядуля сваім стылем жыцця навучыў яе самакрытычнасці, самаіроніі.

Анатоль Вярцінскі, жыццёвыя шляхі якога таксама пераплёліся з лёсам пісьменніка, прадэкламаваў верш, у аснове якога — аптымістычны наказ самога Лынькова «Дзярзай жа, уюнаша!» Гэтыя словы сталі дэвізам творчай дзейнасці А. Вярцінскага.

Міхась Кенька, аўтар кнігі «Міхась Лынькоў: летапіс жыцця і творчасці», расказаў, як па крупіцах збіраў цікавыя звесткі для гэтага выдання. Аляксандр Вашчанка, які яшчэ ў дзяцінстве захапіўся аповесцю «Міколка-паравоз», перадаў свае ўражанні ад твораў Лынькова.

Кожны з выступоўцаў па-свойму шчыра ўзгадаў Міхася Ціханавіча, падзякаваўшы архівістам за захаванне скарбаў беларускай культуры.

**Ірына КАШУБА**

# Каляды ў Багдановіча

Усапраўднай казцы апынуліся наведвальнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча падчас святочнай вечарыны «Беларуска-нямецкія Каляды». Сумесныя сустрэчы, якія ладзяць Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Інстытут нямецкіх даследаванняў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, сталі ўжо традыцыйнымі.

Падчас імпрэзы гучалі беларуская ды нямецкая мовы. Гульні, калядныя спевы, танцы ў спалучэнні са святочным настроем стварылі непаўторную атмасферу. Гасцям прапаноўваліся майстар-класы па стварэнні навагодніх упрыгожванняў. Кожны змог уласнаручна зрабіць калядную выцінанку, размаляваць пернік, а таксама — пакінуць свае пажаданні на навагодняй ялінцы, пачаставацца салодкім гасцінцам і нават паваражыць!

Кульмінацыяй свята стаў калядны абрад у выкананні студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Госці паглядзелі спектаклі старажытнага лялечнага тэатра «Батлейка». Завяршылася імпрэза конкурсам касцюмаў ды гульнёю «Абмен падарункамі».

Нашыя продкі з асаблівым пачуццём чакалі калядныя дні, рыхтаваліся да іх. Лічылася: як правядзеш святочны вечар — такі будзе ўвесь год. Калі верыць гэтай прыкмеце, у наведвальнікаў музея Багдановіча ён дакладна атрымаецца радасным і вясёлым!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Чытайце беларускае!

**Вынікі раённага конкурсу прэзентацый кніг айчынных аўтараў пад агульнай назвай «Любі, шануй і ведай сваё слова» падведзены на чарговай нарадзе бібліятэкараў у літаратурнай гасцёўні «У Паўлюка».**

Першае месца атрымала бібліятэкар Хатлянскай сельскай бібліятэкі Алена Зубава, чыя літаратурная вандроўка ў выглядзе гульні-вікторыны па кнізе У. Ягоўдзіка «Грыбок, грыбок, выстаў лабок» прыйшлася ўсім даспадобы. Гэтую ж прэзентацыю яна паспяхова праводзіла з маленькімі чытачамі ў сваёй кніжніцы.

На другім месцы — загадчыца Слабадской бібліятэкі-клуба Таццяна Шыдлоўская з відэапрэзентацыяй па кнізе А. Масла «Прыгоды пацучка Фэліка». Разам з галоўным героем бібліятэкар запрасіла юных чытачоў здзейсніць падарожжа ў казачны свет. Трэцяе месца падзялілі бібліятэкар Зенькавіцкай сельскай бібліятэкі Галіна Астравух і бібліятэкар Азерскай сельскай бібліятэкі Ірына Самовіч. Г. Астравух падрыхтавала буклет па творчасці пісьменніка-земляка А. Якімовіча «Чараўнік беларускага слова». І. Самовіч абрала кнігу Васіля Шырко «Дзед Манюкін і ўнукі».

Бібліятэкары Уздзеншыны традыцыйна напрыканцы года падводзяць вынікі творчай працы. Асноўны напрамак дзейнасці кніжніц — папулярызацыя чытання — можа быць паспяховым, толькі калі іх супрацоўнікі выкарыстоўваюць усю «палітру» прафесійнага майстэрства: выстаўкі, адкрытыя прагляды літаратуры, сустрэчы з пісьменнікамі.

**Аксана ДРАЧАН, дырэктар Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса**

# Снежаньская сустрэча

**Чарговае пасяджэнне беларуска-турэцкай літаратурнай гасцёўні «Дыялог сяброў» адбылося ў сталічным офісе грамадскай арганізацыі «Дыялог Еўразія». Па традыцыі на такіх сустрэчах больш поўна прадстаўляецца творчасць аднаго з аўтараў, пісьменнікаў, а таксама ідзе размова пра літаратуру і культуру Беларусі і Турцыі.**

Удзельнікі «гасцёўні» — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Беларусі, дзеячы культуры і мастацтва, літаратары, члены Мінскага гарадскога аддзялення СПБ на чале з Міхасём Пазняковым, якія колькі гадоў таму здзейснілі падарожжа па Стамбуле. Спецыяльна запрошаны госць — Уладзімір Навумовіч, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры, сёлетні лаўрэат рэспубліканскай літаратурнай прэміі за лепшы твор года.

Уладзімір Аляксандравіч распавёў пра выкладанне літаратуры ў школах і ВНУ краіны, працу з таленавітай моладдзю, творчы і жыццёвы шлях. Дырэктар грамадскай арганізацыі «da» Сезер Чакмак пазнаёміў з планамі арганізацыі на будучы год. Распрацавала сцэнарый міжнародных літаратурных вечароў пісьменніца Ірына Тулупава.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

# «Парнас» не сумуе

Творчы вечар Таісы Трафімавай адбыўся ў паэтычным клубе «Парнас», што працуе пры публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска.

Кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, распавёў пра творчасць паэтэсы, азнаёміў з яе біяграфіяй. Таіса Іванаўна прачытала ранейшыя і новыя вершы. І зрабіла гэта з асаблівым майстэрствам, бо яна, да ўсяго, актрыса. Таксама прагучала некалькі песень на словы Т. Трафімавай у выкананні маладых беларускіх спевакоў.

Слухачы — студэнты і выкладчыкі Мінскага архітэктурна-будаўнічага каледжа — даведаліся пра творчыя захапленні, замежныя паездкі ды незабыўныя сустрэчы паэтэсы. Шчырыя словы ўдзячнасці і захаплення паэзіяй Т. Трафімавай выказала на вечары і калега па творчай арганізацыі, паэтэса Вольга Шпакевіч.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Слова на развітанне



Бывай, дарагі наш дружа!.. 19 снежня пайшоў з жыцця пісьменнік Іван Іванавіч Галубовіч (Янка Баравы). Быў ён шчырым, удумлівым празаікам, адкрытым і добразычлівым чалавекам, няўрымслівым працаўніком на ніве беларускай літаратуры. З яго шчырым, немудрагелістым радком адчувалася трапяткая душа, бясконца адданая роднай Беларусі.

Нарадзіўся Іван Іванавіч у вёсцы Пранчэйкава на Маладзечаншчыне 26 мая 1942 года. Пасля заканчэння Глыбоцкага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі асвойваў цалінныя землі, служыў у войску, працаваў на Алтайскім трактарным заводзе ў г. Рубцоўску. Закончыў Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, пазней — факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Журналістыкай і літаратурай захапіўся яшчэ ў школе. У 1955 годзе ўступіў у Саюз пісьменнікаў Беларусі, выдаў шэраг цікавых кніг для дзяцей і дарослых. Сярод іх — «Пастарайся стаць чалавекам», «Зязюля дзетак шукала», «Янотавы абяцанкі», «Гром на світанку», «Дзівосы роднай прыроды». Казкі і апавяданні пісьменніка друкаваліся ў калектыўных зборніках, у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Маладосць». Урыўкі з твораў Янкі Баравога ўключаны ў школьныя падручнікі па беларускай мове. Творы пісьменніка — светлыя, напоўненыя дабрынёй, павучальныя.

Янка Баравы застанецца з намі назаўсёды.

**Аляксандр ХАЗЯНІН, Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі**

**Міхась КАЗЛОЎСКІ, краязнавец**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Івана Іванавіча ГАЛУБОВІЧА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Вечар зімовага горада

**Прэзентацыя паэтычнага зборніка Жанны Мілановіч «Мінусуючы адзіноту» адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Кніга пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Ковчег».**

Пад вокладкай выдання сабрана інтымная, філасофская, урбаністычная лірыка. Спадарыні Жанне пашанцавала з рэдактарам — паэтам, галоўным рэдактарам часопіса «Новая Немига литературная» Анатолем Аўруціным.

«Гараджанка» — так назвала імпрэзу сама Ж. Мілановіч — праходзіла ў абраным аўтаркай фармаце душэўнай размовы. Прыкладам, яе вершы пра вайну дэкламавалі юныя чытальнікі Ягор Кудрук і Вераніка Андрыеўская. Дарэчы, гэтай тэме ў творчасці паэтэсы належыць значнае месца: яе бацька — з пакалення «дзяцей вайны».

Самым гарадскім музычным інструментам, здольным перадаць глыбокія пачуцці, спадарыня Жанна лічыць саксафон. Некалькі кампазіцый падчас вечарыны выканаў саксафаніст Аляксандр Арэшкаў.

З выхадам Жанну Мілановіч віншавалі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэт Міхась Пазнякоў, намеснік старшыні МГА СПБ, празаік Наталія Касцючэнка, рэдактар новага зборніка Анатоль Аўруцін, паэтэса Вольга Норына.

Жанна Мілановіч не ставіць сабе мэту быць «моднай» паэтэсай. Аднак верыцца, што дзякуючы падобным сустрэчам дабрыня, шчырасць, узаемаразуменне заўсёды будуць «у трэндзе».

**Яна ЯВІЧ**

Дзямід ШВОРАН

# Навагодні калаўрот

Для жонкі, сына і унукаў.
Снег, што ідзе, ўбакі рассуне
І, ранкам стаўшы пры акне,
Снягурцы, вабнае красуні,
Па звычцы хітра падміргне.



**ВАСІЛЮ МАКАРЭВІЧУ**

Сіла ёсць! Раздзьмухаў горан,
Ды прыцёг і чоп з вадою —
Гартаваць пяро і шворан,
Грозную ў турнірах зброю.

## Алене Брава

Калі напіша твор, то ўвесь Алімп
Б'е у далоні і гукае: «Брава!»
Так, як пчала мядок збірае з ліп,
З жыцця бярэ густую праўду Брава.

## Расціславу Бензяруку

Не пакладае ён у працы рук,
Прапахлыя жывіцаю-смалою.
Сасняк радкоў у вершы Бензярук
Кладзе і сцеле ўсцяж бензапілою.



**СЯРГЕЮ ДАВІДОВІЧУ**

Дні мчаць, як за паромамі паром.
І сам па краі ходзіць не находзіцца.
Ён з пэндзалем сябруе і з пяром,
Урэшце, з адкрыццём і вынаходніцтвам.

## Зінаідзе Дудзюк

Дудзюк не дудзіць у пустую дуду.
Не трэба парфумы, не трэба румяны.
Яна ў чытачоў кожны дзень на віду
Аповесці ўмела снуе і раманы.

## Мар'яну Дуксу

Калі ў трубу паэт зацягне сола
Каля Смаргоні, недзе ў вёсцы Солы,
Бы схопіць бога ён за бараду.
Навокала уміг замоўкнуць сёлы
І сустракае хлебам ды і з соллю
Ён зімнюю княгіню каляду.
Мядзведзь лясны становіцца вясёлы,
Ідзе ламаць дубовую граду.

## Кастусю Жуку

Не, не адбіўся ён ад рук,
Паэт, былы рэдактар Жук.
Радкі майструе без прынукі

## Анатолю Казлову

Няма на свеце гэткіх слоў,
І каларытных, і падатных,
Каб іх не перабраў Казлоў —
Празаік і стыліст выдатны.

## Уладзіміру Ліпскаму

У рызманах яны, а ці ў шаўках,
На пенсіі сядзяць, а мо з вудоўем, —
Усіх аднафамільцаў адшукаў
На сушы, пад зямлёй і пад вадою.
Сабраў у гурт ткачоў і мільянераў,
Заядлых аптымістаў, малавераў.
Ну хіба не выдатная сям'іска,
Калі б ёй, скажам, з'ехацца у Мінску?!

## Георгію Марчуку

У вочы калегі пускаюць туман,
Цярэбячы то бакенбарды, то пэйсы.
А ён выпускае то новы раман,
То ставіць на сцэне чарговую п'есу.

## Рыгору Сароку

Верш Рыгора Ільіча Сарокі
Не баіцца, вам скажу, суроку.
А таму і радуемся мы,
Твораў сустракаючы тамы.
Вокладкі у іх — нібы з брані:
Не праб'еш ні куляй, ні асколкам.
Не гарaць такія у агні
І ў вадзе не тонуць аніколькі.

## Алегу Ждану

Празаік па прозвішчы Ждан,
У тлуме штодзённага быту,
Ён мае свой мерыдыян,
Сваю сярод творцаў арбіту.

І трэба дадаць да ўсяго,
(Заўважым пра гэта у дужках.)
Не хваліцца ён, што яго
Сапраўднае прозвішча — Пушкін.



**АНАТОЛЮ ЗЭКАВУ**

Анатоль Мікалаевіч Зэкаў
Галаву не ламаў, а кумекаў.
Для сябе нечакана адкрыў,
Што ён можа узяць за прывычку
Выдаваць на гара Зэкавычкі!
І — наватарскі здзейсніў прарыў.



**УЛАДЗІМІРУ КАРЫЗНУ**

Пра аптымізм і пра інтым,
Пабачаныя, як праз лінзу,
І аркестроўка, і матыў
Сапраўдныя, а не прылізаныя.

*Сяброўскія шаржы Аляксандра Каршакевіча*

Анатоль ЗЭКАЎ

## Навагодняе

*Новы год — гэта проста чысло,*
*толькі ноч за сталом —*
*больш нічога...*
*Дык чаму ж тае ночы свята*
*адганяе прэч сум*
*і трывогі?*

*Хоць яшчэ і спрабуем згадаць,*
*што збылося і што не збылося,*
*ды нявартa больш*
*тое гартаць,*
*што ў мінулым ужо*
*засталося.*

*Згадкі згадкамі,*
*толькі не ў іх*
*урачыстасць застольнай бяседы,*
*бо ва ўсіх —*
*маладых і старых —*
*думкі ўжо пра наступны год,*
*гэты,*

*што цяпер наступае якраз,*
*і таму нашы тосты-жаданні,*
*каб усё было хораша ў нас,*
*каб ва ўсім было ў нас*
*шанцаванне,*

*каб не ведалі лішніх турбот,*
*каб мінулі жыццёвыя драмы...*
*Новы год!*
*І наперадзе год*
*да наступнага года таксама.*

*Як жа пройдзем свой шлях гадавы*
*і ці будзе ён болей*
*адметны?*
*Новы год уступае ў правы*
*і праз год нам адкажа*
*на гэта.*

*А пакуль — за сталом гамана,*
*звон бакалаў і тосты-жаданні...*
*І чамусьці так верыцца нам*
*у здзяйсненне усіх*
*спадзяванняў.*

Антон ПРЫЦЭЛ

# Хто ёсць хто

## *Навагоднія эпіграмы*

**ПЯТРО ВАСЮЧЭНКА**

Ён да пісьменнікаў належыць,
У якіх спецыфіка зусім не вузкая,
І нават сярод моў замежных
Укараняе нашу, беларускую.

**УЛАДЗІМІР МАЗГО**

Ў «Юнацтве» быў і пад «Вясёлкай»,
Гарэў у «Полымі», а потым,
Каб не згарэць, у «Нёман» лоўка
Нырнуў ад полымнай спякоты.

**МІКОЛА МАЛЯЎКА**

Па сцежках Коласа хадзіў,
Сярод яго герояў рос,
Таму, відаць, і не блудзіў,
Як на Парнас скіроўваў лёс.

**МІХАСЬ МІРАНОВІЧ**

Ну што сказаць мне пра яго?
Хіба тут мае месца жарт,
Калі і з прозвішча свайго
Ён утварае новы жанр?

**МІКОЛА МЯТЛІЦКІ**

Паэт і бацькаў кут, і матчын,
І родны кут не забывае.
Хоць і адселены ўжо Бабчын,
У вершах вёска — як жывая.

**ЮЛІЯ НОВІК**

Ляціць імкліва, нібы стрыж,
У вершаваную бясконцасць.
Хоць ёй падміргвае Парыж,
За тэрыконам бачыць сонца.

**МІХАСЬ ПАЗНЯКОЎ**

Ён выдаў слоўнік адмысловы
І ўсіх прыметнікамі ўсцешыў.
Цяпер імкнецца тыя словы
Зарыфмаваць ва ўласных вершах.

**ІГАР ПРАКАПОВІЧ**

Літшлях свой цвёрда абазначыў —
І ўжо зусім не дзеля славы
Перааараў ён з мэтай краязнаўчай
Уздоўж і ўпоперак Паставы.

**ВАСІЛЬ ТКАЧОЎ**

Пісьменнік гэткага замесу
Адпачываць наўрад ці стане.
Раманы піша ён і п'есы
І для дзяцей апавяданні.

**МІХАСЬ ТЫЧЫНА**

Ён столькі начытаўся іншых,
Што прозы сам ужо не піша.
У тым, відаць, і ўся прычына,
Што не да прозы больш Тычыне.

**МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ**

Паэтаў шмат, старэючы, дзяцінее.
Ў яго ж усё — насуперак гадам:
З юнацтва й валасы пакрыты інеем,
З юнацтва і дзяцінее
Ён сам.

**ВІКТАР ШНІП**

Для Віктара такая радасць —
Як палатно, балады ткаць.
Энцыклапедыю ў баладах
Гатоў усю зарыфмаваць!

**Вожык вінцуе**

Часопіс сатыры і гумару

Ірына ЛЯВОНАВА

# Назіранкі

***

Сняданкі ў гасцініцы заўсёды суправаджаліся грукатам посуду, які прыбіраў са сталоў афіцыянт-італьянец.

Адна жанчына не вытрымала і пацікавілася ў кіраўніка тургрупы:

— Патлумачце, калі ласка, гэты мужчына так выказвае сваю пагарду да бяздзейнай буржуазіі ці ў ім кіпіць славуты італьянскі тэмперамент?

***

— Ты спытай у таго чорненькага, хто там зялёненькі стаіць? — просіць жанчына свайго спадарожніка, паказваючы рукой на помнік.

***

Рым. Сняданак у гасцініцы. У зале сядзяць дзве пары: італьянцы і расіяне.

Імклівa заходзіць немаладая дама. Акінуўшы позіркам прысутных, строга пытае:

— Хто з вас Звягінцавы?

— Скузі, скузі, — захваляваліся італьянцы.

— Скузі не скузі, а Звягінцавых няма, — сказала яна і пільна паглядзела на другую пару.

Тыя годна вытрымалі яе позірк. Відаць, узгадаўшы ў гэты момант Высоцкага: «Отдых для туристов — что фашистский плен...»

***

Насупраць Эйфелевай вежы стаяць два рускія турысты. Да іх падыходзіць прадавец сувеніраў.

Адзін з іх пытаецца па-руску:

— Колькі каштуе гэтая штучка, што свеціцца?

Прадавец няўцямна глядзіць.

Тады другі, таксама па-руску, тлумачыць:

— Ну, верталёт, значыць.

***

Маленькі хлопчык ідзе поруч з бацькам. Той кажа яму:

— Дай руку.

— Не магу, — адказвае малы. — Я ёй махаю.

г. Масква.




Малюнак Аляксандра Каршакевіча




Малюнак Аляксандра Каршакевіча




Малюнак Алега Карповіча




Малюнак Уладзіміра Чуглазава

***

Мяне ўчора жонка развесяліла: ляжым, глядзім тэлевізар... Затым яна, усміхаючыся, інтымным голасам мне кажа:

— Зараз дзеці заснуць, а мы, ведаеш, чым з табой зоймемся?!

Я, увесь у прадчуванні чагосьці незвычайнага, пытаюся:

— Чым?

Яна нахіляецца і шэпча мне на вуха:

— Цукеркі з дзіцячых падарункаў есці пачнём...

Ядвіга ДОЎНАР

## Не па адрасе

*Вам скажу такую рэч:*
*Гнаць патрэбна старасць прэч.*
*Хоць ужо не дваццаць пяць,*
*Лепш не плакаць, а спяваць.*

*Толькі, як на тое ліха,*
*Ціск папоўз уверх пакрыху*
*І не спіцца па начах...*
*Так, звярнуся да ўрача.*

*Хоць не выдаю я ўзросту,*
*Доктар мне гаворыць проста:*
*«Хворых многа маладых,*
*А у вас ужо — гады!*

*Сёння ў кожнага гастрыт,*
*«Маладзее» і артрыт.*
*А яшчэ — сасуды, бляшкі...*
*Вось і сэрцу вельмі цяжка.*
*Не тлуміце галавы,*
*Бо не маладзіца ж вы!»*

*Я тады — з другога боку,*
*Не міргнуўшы нават вокам:*
*«Кіньце, доктар, вы пра цела,*
*Я б душою шчэ ляцела!»*

*І пачула у адказ:*
*«Дык тады вам не да нас.*
*Просіцца душа ў палёт —*
*Значыць... у аэрапорт!»*

г. Дзяржынск.




Малюнак Вікенція Пузанкевіча




Малюнак Аляксандра Каршакевіча

Андрэй СІДАРЭЙКА

# Шчаслівы дзень

Новы шэф быў злым як авадзень. Не паспеў я спазніцца на работу, як ён выклікаў мяне да сябе.

«Ну, усё, — вырашыў я, — пэўна, звольніць сабраўся».

І нерашуча пераступіў парог кабінета.

А за ім раптам пачуў:

— Вы, пэўна, стаміліся, дык сядайце, калі ласка. Я вас разумею: гэтыя трамваі, метро. Пакуль да працы дабярэшся, усе ногі саб'еш.

Я кінуў позірк на крэсла. У ім нікога не было.

«Хто ж гэта са мной размаўляе? — падумаў я. — Ці, можа, мне гэта ўсё толькі здалося?»

— Што ж вы стаіце? — пачуў я зноў. — Сядайце. А калі я што не так сказаў, то прабачце, калі ласка.

Я няўпэўнена прысеў на першае крэсла, якое было бліжэй да выхаду, і ўрэшце ўбачыў шэфа. Ён стаяў спінай каля вакна, трымаючы рукі ў кішэнях.

— Як вашыя справы? — пачуў я зноў лагодны голас.

«Ды гэта проста намеснік, таму і гаворыць так ветліва!» — падумаў я і няўпэўнена вымавіў:

— Мне б... Івана Іванавіча.

— Ён перад вамі.

Шэф павярнуўся да мяне тварам, сеў у крэсла і запытаўся зноў:

— Дык як вашыя справы?

Я высалапіў вочы.

«Нішто сабе, колькі працую, а ўпершыню чую, каб тут пыталіся пра мае справы».

І раптам да мяне дайшло: «Гэта ж проста новы метад звальнення! Ты пачынаеш скардзіцца на жыццё, на безграшовую працу, а табе паказваюць пальцам на дзверы і гавораць, каб ты шукаў сабе месца, дзе большы заробак. Эге... Не, таварыш, нас на мякіне не правядзеш!» — вырашыў я і нарэшце адказаў:

— Нішто сабе.

— Гэта добра, — добразычліва ўсміхнуўся шэф. — А можа, грошай мала?

— Ну што вы, як кажуць, дзякуй і за гэта.

— Што ж гэта вы? — здзівіўся шэф. — Тут план перавыканалі на 150 працэнтаў, а згаджаецеся працаваць за такі мізар. Не, мы абавязкова заробак вам павысім. А можа, вы хочаце заяву на адпачынак ці адгул напісаць, дык гэта мы зараз.

«І сапраўды звольніць сабраўся, — канчаткова вырашыў я, — бо чаму мяне не з таго ні з сяго ў адпачынак адпраўляць?»

— Што вы, што вы, — запярэчыў я, — не патрэбен мне ніякі адпачынак. Я працаваць хачу. Кожны дзень і ў дзве змены! Без выхадных, прэмій і права на абед. А адпачынак у мяне ў кастрычніку.

— Што ж гэта вы? — зноў здзівіўся шэф. — Ідзіце ў адпачынак у жніўні. Аксамітны сезон! Паедзеце за кошт прадпрыемства на мора, адпачнеце. Мы такімі, як вы, даражым!

Я не паверыў сваім вушам.

«Гэта мне сніцца, толькі сніцца», — падумаў я.

І нібы праз сон раптам пачуў:

— Ну што, вы згодныя?

Я быў згодзен на ўсё. Нават на нечарговую медыцынскую камісію, хоць бы з мяне ўзялі і літр крыві. Не, два літры крыві. Не, усю кроў адразу, толькі каб яшчэ раз пачуць такое.

— Ну што вы маўчыце? — запытаўся лагодна шэф зноў. — Дык што, так ці не?

— Я згодзен, — нарэшце выціснуў з сябе я.

І ўпершыню заўсміхаўся. А разам са мною заўсміхаўся і шэф.

— Ну, вось і добра. Дык, значыць, дамовіліся?

— Ага.

Я выйшаў з кабінета.

А пасля працы, калі вярнуўся дамоў, на парозе мяне пацалавала ў шчаку жонка.

«Гэта што ж за дзень такі сёння? — разгубіўся я. — Мне ўсё гэта сніцца! Гэта ж колькі разам мы жывём? Ага, дваццаць год. А калі апошні раз цалаваліся? Так... Першы год пасля вяселля — кожны дзень; другі год — праз дзень; трэці — раз на тыдзень; чацвёрты — раз на два тыдні; пяты — раз на месяц. Так, так... Дзесяць год. Дзесяць год без адзінага пацалунка! Юбілей!»

І кладучыся спаць, я прыпамятаў увесь дзень: «З працы мяне не звольнілі. Шэф не лаяўся. Заробак абяцалі павысіць. Адпачынак дадуць у жніўні. Жонка ўпершыню за дзесяць год пацалавала».

Вось каб кожны дзень так!

**Калі існуе традыцыя падводзіць напрыканцы года рахункі самага рознага кшталту, чаму б не зрабіць падрахункі літаратурныя? Пра свае самыя яркія ўражанні распавядаюць крытыкі Лада Алейнік, Марына Весялуха, Алена Мальчэўская і Алесь Марціновіч.**

# Кропка. Чырвоны радок

## Алесь МАРЦІНОВІЧ,

**рэдактар аддзела навукі, крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», старшыня секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СПБ:**



Наступны, 2015 год, як вядома, аб'яўлены годам моладзі. І гэта вельмі добра, бо юнакі і дзяўчаты зрабілі (і робяць!) вельмі шмат. У тым ліку і ў такой далікатнай сферы, як прыгожае пісьменства.

Па-мойму, найбольш значныя дасягненні — у галіне дзіцячай літаратуры, і, што сімптаматычна, належаць яны прадстаўніцам прыгожай палавіны чалавецтва.

Вольга Нікольская прыйшла да чытача з аповесцю-казкай «Прыгоды агентаў «КалбаФірЖык», што з'яўляецца працягам твора «Мы — агенты «КалбаФір». Часам, калі пісьменнік піша і другі твор з пэўнага цыкла, ягоны талент «адпачывае», бо не заўсёды ўдаецца сказаць штосьці новае. Вольга Нікольская сказала. Для сваіх твораў яна знайшла арыгінальных персанажаў — катоў Каўбаса і Кефіра, а ў неверагодных прыгодах, у якія тыя трапляюць, выявіла багатую творчую фантазію.

Такім жа шляхам — арыгінальны герой і не менш арыгінальнае развіццё сюжэта — пайшла ў казцы «Ша-ша з левага чаравіка» Алена Мальчэўская. Згаданая казка — яе дэбют у галіне дзіцячай літаратуры. Дагэтуль А. Мальчэўская зарэкамендавала сябе як дасведчаны тэатральны крытык. Ды нездарма кажуць, што сапраўднаму таленту цесна ў межах пэўнага жанру. А. Мальчэўская напісала казку, чытаючы якую шкадуеш толькі пра адно: чаму сам не ў тым ўзросце, калі дрэвы былі гэткімі вялікімі, а свет здаваўся гэткім аб'ёмным. На жаль, такіх цудоўных казак, як «Ша-ша з левага чаравіка», у той час не было. Былі іншыя, нават такія, што даўно сталі класікай, але такой ніхто не паспеў напісаць. Застаецца павіншаваць А. Мальчэўскую з яе казачным дэбютам, а вам параіць кнігу «Ша-ша з левага чаравіка».

Да жанру казкі звярнуўся і Сяргей Давідовіч — паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст, а да ўсяго — жывапісец, скульптар. Чытаеш ягоную кнігу «Дзівос з дзвівосаў» і сам здзіўляешся, чаму ён не ўзяўся раней за напісанне казак. Для С. Давідовіча-казачніка адметна тое, што ён, як і ў сваёй «дарослай» пісьменніцкай творчасці, удала ўводзіць у казкі тонкі, дасціпны гумар.

Кнігай «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча» хораша заявіў пра сябе як літаратурны крытык, літаратуразнаўца Дзяніс Марціновіч, які плённа працуе і як тэатральны ды музычны крытык, даследчык. Разумею, што мне быццам і не выпадае пісаць пра яго. Ды паколькі гаворка ідзе пра сёлетнія набыткі, не магу не назваць гэтае імя, бо згаданая кніга, несумненна, — дасягненне, калі можна так сказаць, крытычнага года-2014. Да ўсяго тут закранаюцца і пэўныя аспекты развіцця беларускай гістарычнай прозы.

З пісьменнікаў больш сталага ўзросту парадаваў даследчыцкай кнігай «Блеск кароны» Іван Саверчанка, сягнуўшы ў ёй у беларускую мінуўшчыну. Лёсы знакамітых сыноў Бацькаўшчыны — Усяслава Чарадзея, Вітаўта, Вацлава Ластоўскага, Кастуся Каліноўскага і іншых — гэта нацыянальная гісторыя, раскрытая праз біяграфіі тых, хто ў розны час з'яўляўся яе рухаючай сілай.

А цяпер пра больш узвышанае — паэзію. Тут, на мой погляд, адзначыліся паэты, якія працуюць даўно. Міхась Пазнякоў з кнігай «Наталенне Радзімай» і Віктар Шніп з яго «Першым папяровым снегам».

Кніга Уладзіміра Саламахі «…І няма шляху чужога» — лепшае з сёлетніх празаічных набыткаў. Дарэчы, тры з чатырох прастаўленых аповесцей друкаваліся ў знакамітым маскоўскім часопісе «Наш современник», які друкуе толькі самае-самае лепшае. Пад такое вызначэнне і патрапляюць творы У. Саламахі, дзе героі пастаянна вытрымліваюць экзамен на чалавечнасць.

Восем аўтараў, восем кніг — таленавітых, ужо запатрабаваных чытачом і заўважаных крытыкай.

## Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,

**намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», тэатральны крытык:**



Адметныя падзеі для беларускай драматургіі ў 2014 годзе звязаныя з маладымі аўтарамі. Некаторыя з іх мы чакалі. Прадказальную цікавасць, напрыклад, выклікала ІІІ Драматургічная лабараторыя, якую зладзіў Цэнтр беларускай драматургіі. Тэксты, створаныя ў межах дзвюх папярэдніх лабараторый, актыўна асвойваюць удзельнікі сучаснага тэатральнага працэсу. Шкада толькі, што часцей гэта адбываецца па-за межамі Беларусі. Можна прыгадаць поспех дзвюх п'ес, напісаных менавіта «лабараторным шляхам». Напрыканцы 2014-га стала вядома: дакументальны праект Андрэя Саўчанкі «Бі-Лінгвы» (пра самаідэнтыфікацыю сучасных беларусаў) і спектакль Пракоп'еўскага тэатра драмы «Гэта ўсё яна» (Расія) Андрэя Іванова пра віртуальныя і рэальныя адносіны маці і сына былі ўключаныя ў праграму «Маска Плюс» расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі і фестывалю «Залатая Маска». Што тычыцца набыткаў непасрэдна сёлетняй лабараторыі, то, па-першае, яна займела статус міжнароднай, а па-другое, у яе межах было напісана 4 тэксты. Найбольш вядомая пакуль што п'еса Віктара Красоўскага (Беларусь) і Ірыны Гарэц (Украіна) «Эшало№0» пра адвечную пакуту вайны.

Прадказальнай была і ўвага тэатралаў да шорт-лістоў расійскага Фестывалю маладой драматургіі «Любімаўка», дзе ўжо не першы год збіраецца своеасаблівая беларуская праграма. Гэтым разам у асноўную праграму патрапілі п'есы Максіма Дасько «Лондан» (аповед беларускага сантэхніка, які апынуўся ў сталіцы Вялікабрытаніі) і Лёхі Чыканаса «Двое лішніх, трэці — занадта» (гісторыя хваробы і кахання). У пазаконкурсную праграму ўвайшла п'еса вядомага беларускага драматурга Паўла Пражко «Карына і Дрон».

Важнай падзеяй 2014 года стала прэм'ера спектакля «Тата» паводле п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага (рэжысёр Кацярына Аверкава) у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

У Брэсцкім абласным акадэмічным тэатры драмы рэжысёр Дзяніс Фёдараў распачаў сцэнічныя читанні сучаснай беларускай драматургіі. Вопыт Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, дзе падобны праект зладзілі некалькі год таму, даказаў эфектыўнасць пераадолення бар'ераў паміж складанымі сучаснымі тэатральным тэкстам, выканаўцамі і гледачамі.

А самай вялікай радасцю 2014-га асабіста для мяне стала прэм'ера спектакля «Мабыць?» у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Рэжысёр Аляксандр Марчанка, драматург Дзмітрый Багаслаўскі, кампазітар Ягор Забелаў і 12 акцёраў тэатра стварылі дакументальны спектакль, асновай якога сталі інтэрв'ю з сучаснымі беларусамі. Гэта той твор і тая драматургія, якіх вельмі не хапала на айчыннай рэпертуарнай сцэне.

## Лада АЛЕЙНІК,

**крытык, літаратуразнаўца:**



Гэтая маленькая нататка запатрабавала ад мяне вялікіх высілкаў. Вызначыцца з творам, які ў гэтым годзе выклікаў у мяне самыя яркія ўражанні, было зусім нескладана — апавяданне Алеся Бадака «Ідэальны чытач». Аднак паўстала праблема, так бы мовіць, этычнага кшталту. Алесь Бадак — галоўны рэдактар часопіса, намеснік дырэктара выдавецкай установы... Начальнік, адным словам. А хваліць начальніка, як вядома, маветон. Упэўнена нават, што абавязкова знойдуцца ахвотнікі абвінаваціць мяне і ў падхалімстве, і ў чынашанаванні. Тым не менш…

Апавяданне «Ідэальны чытач» выканана ў эсэістычнай манеры: аўтар нібыта сам-насам разважае пра літаратурную творчасць, звяртаецца да ўспамінаў, прыватных асацыяцый. І няўхільна настройвае на гэтую ж эмацыянальную танальнасць чытача.

Ледзь не кожны эпізод твора выклікае асабістыя асацыяцыі і ў чытача, змушае праводзіць пэўныя паралелі з уласнымі меркаваннямі адносна літаратуры, мовы, культуры. Нават далёкі ад беларускіх рэалій урывачак пра рэцэпт туркменскага плову (кухар кажа, што «каб адчуць яго сапраўдны смак, трэба нарадзіцца і вырасці там, дзе Сумбара ўпадае ў Атрэк») прымусіў згадаць некаторых сучасных літаратурных дзеячаў, якія не могуць даўмецца, чаму Мележ ці Быкаў займаюць у айчыннай культуры такія ганаровыя месцы, чаму іх так шануюць чытачы. Перафразуючы радкі апавядання, хочацца сказаць: «…каб адчуць сапраўды смак гэтых твораў, трэба нарадзіцца і вырасці там…» Не сумняюся, што ідэальныя чытачы мяне зразумеюць.

Апавяданне А. Бадака метафарычнае, канцэнтраванае паводле сэнсаў. Мне імпануе яго вобразнасць, спалучэнне лірызму і філасафічнасці ў апавядальнай манеры аўтара, імпануе структура твора, дзе заключная фраза робіцца яркім завяршальным акордам усёй мастацкай кампазіцыі.

Я не прэтэндую на ролю ідэальнага чытача, проста адчуваю асалоду ад падобных твораў — на ўзроўні інтэлектуальнага і эстэтычнага задавальнення, на ўзроўні прафесійнага драйву, у рэшце рэшт.

## Марына ВЕСЯЛУХА,

**крытык, загадчык аддзела «Кніжны свет» газеты «Літаратура і мастацтва»:**



Год, з якім мы развітваемся, багаты на літаратурныя прэм'еры, новыя яркія творы. Так, у жанры прозы ў ліку самых істотных магу назваць кнігу Людмілы Рублеўскай «Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча». Гэты раман стаў завяршальным у трылогіі пра смелага і абаяльнага Пранціша і яго мудрага настаўніка Баўтрамея Лёдніка. Атрымалася так, што ўсе тры раманы цыкла я прачытала цягам 2014 года. А гэта яшчэ большае задавальненне — як паглядзець запар некалькі сезонаў любімага серыяла, не чакаючы, пакуль выйдзе новая серыя.

Адным з самых цікавых паэтычных праектаў назаву дэбютную кнігу Антона Рудака «Верхні горад». Думаю, гэты малады і таленавіты аўтар яшчэ пакажа нам, на што здольны. Дэбютаваў жа ён вельмі яскрава.

Усцешна, што беларускія тэкстолагі, даследчыкі, нават краязнаўцы працягваюць працу па перавыданні, пераасэнсаванні класічных тэкстаў, пошуку новых твораў і вяртанні забытых імёнаў. Так, надзвычай плённа папрацаваў Юрась Пацюпа, уклаўшы грунтоўны том «Творы» Максіма Багдановіча. У гэтым выданні прадстаўлена, па сутнасці, уся спадчына беларускага класіка з каментарамі. Рускамоўныя тэксты перакладзены на беларускую мову, падаюцца і ўспаміны сучаснікаў пра Багдановіча. А краязнаўца са Слоніма Сяргей Чыгрын падрыхтаваў і выдаў невялічкі зборнік-сшытак ацалелых вершаў паэта Янука Дарашкевіча «Маркотныя зоркі». Гэтая маленькая кніжачка стала вялікім адкрыццём невядомага і забытага творцы, які актыўна працаваў у пачатку XX ст.

Парадавалі сёлета і перакладчыкі. Каманда часопіса «ПрайдзіСвет» падрыхтавала адметны зборнік святочнага апавядання «Падарунак на Каляды» (спадзяюся, выданне такіх тэматычных кніг можа стаць добрай традыцыяй), а таксама ўпершыню прадставіла чытачу «Прыгоды Шэрлака Холмса» Артура Конан Дойла на беларускай мове.

# Чалавек з вуліцы Светлай

**Дастаю з кніжнай паліцы ёмісты, ледзь не на 650 старонак, том «Истории белорусской дооктябрьской литературы». На тытульнай старонцы чытаю: «Глыбокапаважанаму Вячаславу Пятровічу Рагойшу, руплівому працаўніку на ніве роднай літаратуры, з найлепшымі пажаданнямі. Мінск, 1.VIII.77». Падпісаліся амаль усе, хто меў непасрэднае дачыненне да стварэння гэтай грунтоўнай і ўнікальнай па тым часе кнігі: Юліян Пшыркоў, Вячаслаў Чамярыцкі, Міхась Мушынскі, Аляксандр Коршунаў, Васіль Барысенка, Адам Мальдзіс. Пазнаю акуратны, настаўніцкі почырк Юліяна Сяргеевіча Пшыркова. І перад вачыма паўстае воблік невысокага моцна скроенага чалавека, нетаропкага, негаваркога, надзеленага той мудрасцю, што заўсёды вылучала беларуса з асяроддзя нават найбліжэйшых суседзяў.**

Прозвішча Пшыркоў я пачуў упершыню на першым курсе БДУ з вуснаў прафесара і тагачаснага дэкана філалагічнага факультэта Міхася Рыгоравіча Ларчанкі, які чытаў нам курс гісторыі беларускай старажытнай літаратуры і часам спасылаўся на працы сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, якім у той час кіраваў Ю. Пшыркоў. Усе наступныя гады вучобы і працы, ажно да заўчаснай смерці Юліяна Сяргеевіча, падарылі мне шчаслівае знаёмства, шматлікія сустрэчы з гэтым ветлым і светлым чалавекам. І ў цесных пакоях былога Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, і ў былым будынку філфака наўскос ад былой «Ленінкі», і нават у яго ўласным — сялянскага выгляду — мінскім доміку. Доміку, які і цяпер стаіць на вуліцы Светлай і радуе вока ружовымі мальвамі ў невялікім палісадніку…



Не буду казаць пра Юліяна Пшыркова як пра буйнога вучонага-літаратуразнаўца. Хоць бы таму, што пра гэта ўжо сказана. Хочацца звярнуць увагу на некаторыя чалавечыя рысы яго натуры, якія, аднак, выявіліся ў яго навуковай працы.

Па-першае, гэта сумленнасць, праўдалюбства. Вучонаму гэтыя рысы надта неабходныя! Юліян Сяргеевіч пачаў сцвярджаць сябе як навуковец у апошнія гады студэнцтва на філалагічным факультэце Ленінградскага ўніверсітэта (1934 — 1939). Відавочна, не толькі грунтоўную філалагічную адукацыю, але і прышчэпку працавітасці, навуковага праўдалюбства ён у значнай ступені атрымаў ад філолагаў П. Н. Беркава, В. М. Жырмунскага, М. К. Піксанава, Л. В. Шчэрбы, І. П. Яроміна (кіраўніка яго дыпломнай працы), гісторыка Я. В. Тарле, эканаміста А. Н. Вазнясенскага і іншых рускіх вучоных. На ўсякім выпадку, самыя першыя публікацыі Ю. Пшыркова — «Новая зямля» Якуба Коласа («Полымя рэвалюцыі». 1940. № 3) і «Дарэвалюцыйныя паэмы Янкі Купалы» («Полымя рэвалюцыі». 1940. № 12) — зусім не вызначаліся кан'юнктурнай скіраванасцю, як большасць тагачасных літаратуразнаўчых даследаванняў. Замест таго, каб аналізаваць паэмы Янкі Купалы савецкага часу, тую ж «Над ракой Арэсай», ён бярэ дарэвалюцыйныя ліра-эпас песняра. Што да «Новай зямлі», то над ёй усё яшчэ вісеў дамоклаў меч, узнесены ў 1930-я гг. А. Кучарам: маўляў, ідэйная скіраванасць Коласава твора — «заклік да стварэння заможных хутарскіх гаспадарак». «Дваццаць год мяне бэсціць і лае крытыка, і я не ведаю за што, бо ў паэме сказана зусім не тое, што яна там знаходзіць. Вы першы, хто правільна ацаніў паэму. Жадаю ўдачы», — такую ацэнку той першай даследчыцкай працы Ю. Пшыркова даў у дасланым лісце сам Якуб Колас.

Вярнуўшыся з Вялікай Айчыннай вайны, тройчы паранены, Юліян Сяргеевіч з найбольшай самаадданасцю ўвязваецца ў бой за гістарычную і літаратуразнаўчую праўду. Скажам, якія толькі ярлыкі не вешалі на «Нашу Ніву» ў савецкі час, па словах Максіма Танка, яе «хаялі», «бо ўсё сваё хаяць прывыклі» («Гісторыя вёскі Пількаўшчына»)!

Юліян Пшыркоў узяў дый апублікаваў, карыстаючыся сваім франтавым «імунітэтам», артыкул «Янка Купала — рэдактар «Нашай Нівы» («Беларусь». 1946. № 5 — 6). Можна толькі ўявіць, якія «прапрацоўкі» аўтара пачаліся пасля гэтага, калі нават бяскрыўдная пераацэнка першых частак трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» («Беларусь». 1946. № 10) выклікала абвінавачванне ў… «невуцтве і нацыяналізме» (Л. Бэндэ). Парадокс: гэта можна хіба што з «прапрацоўкамі» яго калегі М. Ларчанкі пасля публікацый артыкулаў пра творчасць т. зв. «буржуазных» пісьменнікаў Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш. і інш. Ведаю пра «самалячэнне» Міхася Рыгоравіча пасля грозных «выкрывальных» публікацый у партыйнай прэсе і партыйных сходаў ва ўніверсітэце. Ён, казалі, прыходзіў дадому, прыхопліваючы па дарозе «чыкушку», выпіваў яе не закусваючы і клаўся ў ложак… Як «лячыўся» Юліян Сяргеевіч — не чуў. Мабыць, яго ратавала найперш Нона Іванаўна, жонка, маці двух яго ных дачок і сына, жанчына чулая і разумная.

У адным са сваіх абразкоў Фёдар Янкоўскі выказаўся: «Калі б Міхась Ларчанка не напісаў нават аднае кніжкі, не быў навуковым рэдактарам і аднае манаграфіі, ён усё адно заслужыў бы нашу ўдзячнасць... Міхась Ларчанка гадаваў і выхоўваў, ствараў і стварыў цэлы вялікі калектыў, дружны і працавіты, літаратараў-літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, вучоных-педагогаў». Гэта — пра славутую калісьці кафедру беларускай літаратуры БДУ, на якой руплівасцю М. Ларчанкі сталі працаваць Сцяпан Александровіч, Ніл Гілевіч, Сяргей Гусак, Алег Лойка, Іван Навуменка, Рыгор Семашкевіч, Любоў Тарасюк, Кузьма Хромчанка... Юліян Пшыркоў таксама «ствараў і стварыў» славуты акадэмічны сектар беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі, а ў ім згуртаваў не менш выдатных асоб: Міколу Грынчыка, Розу Гульман, Эсфір Гурэвіч, Віктара Дарашкевіча, Аляксандра Коршунава, Ірыну Крэнь, Адама Мальдзіса, Аляксея Мельнікава, Міхася Мушынскага, Міколу Прашковіча, Антона Семяновіча, Міхася Тычыну, Антаніну Харкевіч, Вячаслава Чамярыцкага, Івана Чыгрына… Сектар гэты заўсёды быў на ідэйна-палітычным вастрыі свайго часу. Сёння як нешта аксіяматычнае ўспрымаецца тое, што Полацкае княства — пачатак беларускай дзяржаўнасці; ВКЛ — гэта не Літва ў яе этнічным значэнні, у якую «западнорусские земли силой включили агрессивные литовские феодалы», але і наша, беларуская, дзяржава, а беларуская мова (у яе старабеларускім літаратурным варыянце) была ў ёй дзяржаўнай; беларус Францыск Скарына — усходнеславянскі першадрукар (а не Іван Фёдараў); старажытная беларуская літаратура — шматмоўная і поліканфесійная і г. д. А ў 1950-я гг., і нават нашмат пазней, усё гэта трэба было даказваць, часта змагаючыся з рознымі навуковымі мастадонтамі і партыйнымі артадоксамі. Зразумела, асноўны цяжар у гэтым змаганні падаў на Юліяна Пшыркова. Яму не толькі трэба было «прабіваць» уласныя даследаванні, але і аберагаць ад абвінавачванняў калег. Добрае слова ён выказаў і пра новыя мастацкія творы Янкі Брыля, Вісарыёна Гарбука, Уладзіміра Дубоўкі, Кандрата Крапівы, Аркадзя Чарнышэвіча ды інш. Што да гістарычных аповесцей і раманаў Уладзіміра Караткевіча,

> *«Дваццаць год мяне бэсціць і лае крытыка, і я не ведаю за што, бо ў паэме сказана зусім не тое, што яна там знаходзіць. Вы першы, хто правільна ацаніў паэму. Жадаю ўдачы», — пісаў Юліяну Пшыркову Якуб Колас.*

то ў іх падтрымку ён наладзіў нават афіцыйнае калектыўнае абмеркаванне ў сваім сектары, пра што пісьменнік неадночы ўдзячна згадваў. Асабіста я абавязаны Юліяну Сяргеевічу за згоду падтрымаць маю кандыдацкую дысертацыю «Паэтыка Максіма Танка» ў час яе абароны ў чэрвені 1967 года. Скажу толькі, што «паэтыка» ў літаратуразнаўстве многімі ўспрымалася ледзь не як «генетыка» — «буржуазная» навука ў біялогіі.

У Юліяна Сяргеевіча, апрача ўсяго, была яшчэ адна выдатная якасць: знаёміць людзей. Яму я абавязаны знаёмствам з многімі выдатнымі вучонымі з Акадэміі навук Беларусі, а таксама з… Уладзімірам Дубоўкам. Юліян Сяргеевіч і Уладзімір Міхайлавіч шчыра сябравалі. І калі ў пачатку 1966 года я, аспірант БДУ, ехаў у Маскву ў навуковую камандзіроўку, Юліян Сяргеевіч даў мне рэкамендацыйны ліст да У. Дубоўкі, назваў яго маскоўскі тэлефон і адрас (жыў тады пісьменнік у Хімках) і папрасіў пры звароце ў Мінск прывезці частку яго архіва. Да мяне, помніцца, далучыліся аспіранцкія сябры — Янка Саламевіч, Леанід Акаловіч, Генадзь Шупенька. Увесь гэты кагал Уладзімір Міхайлавіч запрасіў да сябе дадому. «Вы адзін прыехалі? Не адзін?.. Хлопчыкі, прыходзьце ўсе разам, не бойцеся, што не хопіць месца за бяседным сталом… А як пачуваецца Юліян Сяргеевіч?» — пачулася ў тэлефоннай трубцы. Дубоўка за бяседным сталом частаваў нас не толькі прысмакамі, прыгатаванымі рупнымі рукамі яго Мары Пятроўны, але — у асноўным — успамінамі пра свае вымушаныя вандроўкі па снягах Сібіры, гарах Грузіі. Расказваў пра ўсё ў дэталях, магчыма, упершыню так адкрыта. Распытаўся пра кожнага з нас: адкуль мы, хто бацькі. Мне было асабліва прыемна, што ведае і мой Ракаў… Пры развітанні вынес мяшок, напоўнены архіўнымі матэрыяламі, — «Для Юліяна Сяргеевіча». Пры гэтым выбачаўся, што, мабыць, груз залішне цяжкі для нас. «Што Вы, нас жа чацвёра арлоў!» — бадзёра заявілі мы. «Ну то, арлы, шчаслівага ляціце на Бацькаўшчыну, перадайце прывітанне і ёй, і Пшыркову».

З той незабыўнай сустрэчы ў кожнага з нас засталіся не толькі прыемныя ўспаміны, але і цёплыя дароўныя надпісы У. Дубоўкі. У мяне — на вялікім фотапартрэце пісьменніка і кніжцы яго перакладаў «Санетаў» У. Шэкспіра.

Калі сёння мы з гонарам заяўляем: нашай літаратуры спаўняецца тысяча гадоў, мы, беларусы, — духоўна багатая нацыя і пры гэтым як доказ кладзём на стол падрыхтаваныя ў НАН Беларусі два салідныя тамы «Гісторыі беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў», а таксама пяць аб'ёмных тамоў выдадзеных «Мастацкай літаратурай» «Залатой калекцыі беларускай літаратуры» з творамі гэтага перыяду, — хто можа аспрэчыць духоўнае багацце і паўнацэннасць беларускай нацы! А шлях жа да гэтых тамоў прадвызначаны ў вялікай ступені і намаганнямі Ю. Пшыркова, этапнымі працамі «яго» сектара — «Хрэстаматыяй па старажытнай беларускай літаратуры» (1959), зборнікамі «Беларуская дакастрычніцкая проза» (1965), «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967), «Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці» (1975), калектыўным двухтомным даследаваннем «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1968 — 1969). І ажно — да згаданай мной «Истории белорусской дооктябрьской литературы». Некалькім стваральнікам яе, у тым ліку Юліяну Пшыркову, разам з некаторымі аўтарамі «Истории белорусской советской литературы» (1977) была ўручана высокая ўзнагарода — Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа. Праўда, адбылося гэта праз тры гады пасля выхаду кніг у свет, у 1980 годзе, незадоўга да раптоўнай смерці Юліяна Сяргеевіча.

Але, дзякаваць Богу, адбылося.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# З сям'і Чыгрынавых

**Пётр Чыгрынаў — выкладчык паліталогіі на кафедры філасофіі і ідэалагічнай работы Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў, палкоўнік міліцыі ў адстаўцы, заслужаны работнік адукацыі, прафесар, доктар гістарычных навук. Ён аўтар двух гістарычных раманаў, прысвечаных беларускаму сярэднявеччу: «Тайна вялікага князя» і «Пад трыма каронамі». У рэдакцыі «ЛіМа» Пётр Чыгрынаў падзяліўся жыццёвымі ўспамінамі, распавёў пра свае літаратурныя прыхільнасці і стаўленне да творчасці брата — народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава.**

— У зборніках апавяданняў «Птушкі ляцяць на волю», «Ці бываюць у выраі ластаўкі?», «За сто кіламетраў на абед» Іван Чыгрынаў раскрыў духоўную прыгажосць чалавека ў мірных і ваенных умовах. Найвышэйшым дасягненнем яго творчасці лічу раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві» ды іншыя — з так званага верамейкаўскага цыкла. У гэтых творах яскрава і, на мой погляд, вельмі таленавіта паказана атмасфера ваеннага часу, вясковы побыт на акупіраваных тэрыторыі, арганізацыя падполля, зараджэнне партызанскага руху. Брату ўдалося паказаць вытокі гераізму і мужнасці беларускага народа, стварыць выдатныя вобразы.



Фота Кастуся Дробава

Пётр Чыгрынаў.

**— Пётр Гаўрылавіч, якім прыгадваецца вам дзяцінства?**

— Мы з Іванам нарадзіліся ў вёсцы Вялікі Бор. Назва адпавядала рэчаіснасці: у даваенны час там сапраўды быў вялікі бор — магутныя сосны, якім Іван прарочыў быць помнікамі прыроды Беларусі. На жаль, напрыканцы мінулага стагоддзя дрэвы альбо былі спілаваныя альбо пасохлі... Касцюковіцкі раён знаходзіцца на ўсходзе Беларусі, гэта вельмі бедны край. Калі перафразаваць Якуба Коласа — «неба, сосны ды пясок». Народ жыў у галечы, асабліва ў пасляваенны перыяд. Наш бацька не вярнуўся з вайны, а ў сям'і было шасцёра дзяцей — Іван на чатыры гады за мяне старэйшы. Шэсць гадоў, пакуль не паставілі хату, мы жылі ў зямлянцы. Гэта памежная частка Беларусі — сем кіламетраў ад Расіі, таму наша размоўная мова заўсёды была хутчэй руска-беларуская, чым беларуска-руская.

**— Які настрой быў у вёсцы пасля перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне? За цяжкім жыццём не адчуваўся эмацыйны ўздым?**

— Вялікі Бор быў глухой вёскай: 20 кіламетраў і ад чыгункі, і ад райцэнтра. Электрычнасць з'явілася толькі да 50-годдзя савецкай улады — у 1956 годзе. Фінская вайна ледзь не выкасіла мужчын, у Вялікую Айчынную загінула яшчэ больш нашых землякоў. У пасляваенныя гады усталявалася ціхае жыццё, кожны клапаціўся пра харчаванне, працу ў калгасе. Быў і агульны патрыятызм.

**— А захопленасць камуністычным будаўніцтвам?**

— (*Смяецца.*) Тады больш думалі не пра камунізм, а каб пасецi дзе-небудзь. Але ў нашай сямігодцы дзейнічалі камсамольская і піянерская арганізацыі. Мяне і цяпер здзіўляе: ужо праз некалькі гадоў пасля вайны ў піянераў былі чырвоныя гальштукі, белыя кашулі, нейкая самадзейнасць... У дзіцячай памяці засталося, што да кожнага савецкага свята — 1 Мая, гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі — упрыгожваліся сельсавет і клуб, пабудаваныя яшчэ ў 1924 годзе. Немцы пры адступленні спалілі ўсе хаты, але школу і гэты будынак пакінулі. Наша вёска была вельмі прыгожая, абсаджаная бярозамі. Бярозы стаялі і каля гасцінца — яшчэ з часоў імператрыцы Екацярыны. Але гэтыя дрэвы таксама зніклі, часткова таму, што хлапчукі любілі ўсё паліць, секчы. Вядома, безбацькоўшчына была...

**— Ці захавалася ваша вёска?**

— У мой час агульным маладзевым імкненнем было з'ехаць з «ідыятызму вясковага жыцця» (па азначэнні Карла Маркса). Адразу пасля вайны вёска поўнілася дзіцячымі крыкамі, гульнямі, песнямі, а ў першай палове пяцідзясятых над Вялікім Борам увечары панавала цішыня, людзей было ўжо менш. Аднойчы я прыехаў дадому і ўбачыў, як у некаторых хатах вокны крыж-накрыж забітыя дошкамі. Гэта запомнілася, разанула па сэрцы.

Пасля Чарнобыльскай катастрофы ў вёсцы няма ніводнай хаты, усё зарасло. Складана нават пазнаць тое месца. На зямлі, якая не апрацоўваецца, лясы растуць неверагодна хутка. Цяпер там новыя краявіды. Вельмі сумнае развітанне з Радзімай адбылося ў мяне дзесяць гадоў таму.

**— Сёння ў людзей зусім іншы лад жыцця... Як вы ставіцеся да сучаснай моладзі?**

— Паважаю. Вядома, мы жылі іншымі клопатамі, мелі іншае стаўленне да абавязку — у тым ліку грамадскага. Больш было дысцыпліны і адказнасці. Але і цяпер гэта ёсць у маладых — магчыма, не ва ўсіх... Адбілася тое, што мы жылі ў беднасці, нават у галечы. Здараліся рэчы, пра якія цывілізаванаму чалавеку нават непрыемна расказваць. Умовы жыцця пакпалі свой адбітак на светаўспрыманне.

**— Якія асаблівыя ўспаміны пра Івана Чыгрынава?**

— У сярэднюю школу ў Самацевічы Іван хадзіў за сем кіламетраў — і зімой, і летам, і калі светла, і на досвітку. Своеасаблівы подзвіг. Іван быў лідарам па натуры — як між равеснікаў, так і сярод дарослых. Бо вучыўся. А такіх людзей тады было мала: адзін чалавек на ўсю вёску. Вучоба надавала яму аўтарытэту.

Літаратурная адоранасць у брата выявілася ў юнацтве. Ён пісаў нататкі ў раённую газету. Галоўны рэдактар даў яму рэкамендацыю для паступлення на факультэт журналістыкі. Свой шлях у літаратуру брат пачынаў з паэзіі. Мне запомніўся верш «Смуглянка», апублікаваны ў «Чырвонай змене», калі Іван быў студэнтам.

Для кожнага юнака Радзіма звязваецца з рэчкай, ля якой ён вырас. У нас была Бесядзь, яе куткі надзвычай прыгожыя... Іван любіў раку, тут ён аднойчы прачытаў радкі, якія я памятаю і цяпер:



Іван (злева) і Пётр Чыгрынавы. Сярэдзіна 1950-х.

*Перад захадам сонца*
*Ёсць хвіліна тугі:*
*Аднастайна бясконца*
*Шалясцяць сітнягі.*

Мне гэта спадабалася, я сам паспрабаваў напісаць верш і паказаў брату. Іван не тое што пахваліў і не тое што «пагудзіў» (зганіў)... Больш я вершаў не пісаў.

**— На вашу думку, Іван Чыгрынаў адлюстроўваў вясковае жыццё без перабольшванняў?**

— Нічога нацягнутага, надуманага ў яго творах няма. Ён не перабольшваў, а пісаў само жыццё, саму рэальнасць. Яго героі — не плён пісьменніцкіх уяўленняў, а рэальныя людзі. Але пісьменнік усё бачыць больш складана і глыбока за іншых. У «Сказе пра Лысую гару» Іван Чыгрынаў раіў калегам: «Пішыце добрыя раманы!» Сапраўды, гэта цікава — выяўляць узаемаадносіны між людзьмі, даследаваць унутраны свет чалавека. Толькі дарма Іван у «верамейкаўскім цыкле» змяніў назву вёскі, бо найпрыгажэйшае словаспалучэнне — гэта Вялікі Бор. Я быў самым дасведчаным і абазнаным чытачом Івана Чыгрынава, ніхто не разумеў яго творы лепш за мяне. Але я заўсёды казаў, што кароткія апавяданні ў брата атрымліваюцца лепш за раманы. Апавяданні ён пісаў як Антон Чэхаў.

**— Ці здаралася вам, напрыклад, зайсці ў вагон метро і ўбачыць чалавека, які чытае кнігу Івана Чыгрынава?**

— Быў такі выпадак. Аднойчы я сядзеў у чарзе да нейкага чыноўніка, а побач маладая жанчына чытала адзін з раманаў майго брата. Я зацікавіўся, пачаў размову, і яна сказала, што сама набыла кнігу, нават не ў бібліятэцы ўзяла. Было прыемна. Значыць, Івана Чыгрынава чыталі! У брата амаль штогод выходзіла новая кніга, і гэта сведчыць пра запатрабаванасць. Наогул, людзі тады чыталі больш. Думаю, калі б сучасны кніжны менеджар разгарнуў, напрыклад, зборнік «За сто кіламетраў на абед», то таксама ўзяўся б за перавыданне, і кніга магла б разысціся. Але, на жаль, пісьменнік сыходзіць у іншы свет і забірае з сабой свае ідэі, свае кнігі. Час ідзе, і на яго забываюцца...

**— Вы таксама займаецеся літаратурнай творчасцю. Наколькі запатрабаваныя вашы раманы?**

— У нейкай бібліятэцы мне сказалі, што мае кнігі чытаюць, бяруць на дом. Сустрэчы з чытачамі я не праводжу, грамадская праца наогул не падаецца мне неабходнай і значнай. Для выхавання чалавека больш важныя не бібліятэчныя мерапрыемствы, а рэальнае жыццё: якое ў яго адзенне, які хлеб ён есць, у якой кватэры жыве, якая адукацыя ў яго бацькоў, якое стаўленне да сябе ён адчувае на вуліцы. Калі я чытаў публічныя лекцыі, то часта чуў рэакцыю гледачоў: «Ах, як добра, вы прыроджаны лектар!» У статусе пісьменніка такіх водгукаў пакуль не чую. Я падрыхтаваў яшчэ два гістарычныя раманы, адзін з іх цяпер чытаецца рэдактарам на прадмет выдання.

**— З якой нагоды вы звярнуліся да літаратуры? Што штурхае да творчай працы?**

— Патрэба працаваць. Вядома, я ўжо не магу, напрыклад, капаць канаву, а вось пісаць атрымліваецца. Я шкадую, што звярнуўся да літаратуры ў сталым узросце, але раней трэба было зарабляць грошы, гадаваць сыноў — прычым у даволі складаных умовах. У той час было прынята рана жаніцца, і ў нас з Іванам сем'і з'явіліся рана. Жыццёвыя клопаты адсоўваюць думкі пра творчасць, і магчымасць пісаць з'явілася толькі ў апошнія гады. Затое ў мяне шмат навуковых работ, у тым ліку па гісторыі Беларусі. Напэўна, лепшая мая кніга — «Нарысы гісторыі Беларусі». Міністэрства адукацыі прысвоіла ёй грыф вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ, кніга атрымала чатыры перавыданні, і водгукі студэнтаў з розных навучальных устаноў былі вельмі добрыя. Апошнім часам гісторыкі па-рознаму ацэньваюць падзеі нашага мінулага — і я далучыўся да іх палемікі, выказаў свой погляд на многія рэчы, у тым ліку на праблему паходжання беларусаў, суадносіны беларусаў і ліцвінаў...

**— Якіх пісьменнікаў вы чытаеце?**

— У юнацтве прачытаў «Вайну і мір» Л. Талстога і «Вайну сусветаў» Г. Уэлса. Нейкім чынам кнігі траплялі ў нашу вёску... Калі я пачуў радкі Ніла Гілевіча «А стамлёныя рукі вольна ўшыркі раскіну, / А нагамі — у даліну, хай накрые туман...», зразумеў, што сказаць так мог сапраўдны паэт. Люблю вершы Аляксандра Бястужава (Марлінскага).

**— Якімі былі вашы стасункі з братам у дарослым жыцці?**

— Іван паехаў вучыцца ў Мінск, я па яго слядах хадзіў у Самацевічы — у сярэднюю школу, ведаючы тым, што яе скончыў Аркадзь Куляшоў. Рознае месцажыхарства робіць сувязі між людзьмі менш трывалымі. У час канікул я ездзіў на асваенне цалінных земляў — узнагароджаны медалём «За асваенне цалінных земляў». Іван наведваў Вялікі Бор, але здаралася, што летам мы з ім нават не сустракаліся. У кожнага жыццё пайшло сваім шляхам: у мяне была выкладчыцкая дзейнасць, брат пісаў, працаваў у Саюзе пісьменнікаў, і я ім ганарыўся. Іван неяк прачытаў мне пачатак рамана «Плач перапёлкі», і мяне гэтыя радкі вельмі ўразілі:

«Ноч была з расой, ажно халодная, як у самую восень. Але ціша стаяла нязвычная — у наваколлі больш не чулася таго грукату і гулу матораў, што прынесла ў забесяддзе вайна».

З гэтых слоў пачалася яго раманістыка.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



Кніжны свет

24 снежня 2014 г.

# Час верыць у цуды

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

У прывітальным слове міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч зазначыла:

— Я вельмі рада, што Калядны дабрачынны баль кнігі, які з'явіўся ў нашай краіне ў Год кнігі, аб'яўлены і ініцыяваны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, збірае значную колькасць прыхільнікаў. Кожны год мы стараемся запрасіць як мага больш аматараў кнігі і тых, хто гатовы рабіць дабро, тварыць цуды напярэдадні Каляд і Новага года. Кніга, якую мы сёння прадстаўляем як галоўную, — унікальны выдавецкі праект: аналагаў яму няма не толькі ў блізкім, але і далёкім замежжы. Надзвычай важна, што праект падтрымала дзяржава — так краіна дэманструе падыход да захавання і развіцця нацыянальнай культуры, складнік якой і нацыянальнае кнігавыданне. Прэзідэнт аднойчы сказаў: «Страцім кнігу — страцім краіну». Думаю, што мы сваю кнігу не страцім.

Генеральны дырэктар Вялікага тэатра Беларусі Уладзімір Грыдзюшка падкрэсліў значнасць выдання для прадстаўлення мінулага і сучаснасці тэатра. Ён заўважыў: «Шмат разоў бачыў чарнавы варыянт «Вялікай энцыклапедыі Вялікага тэатра», мы многа працавалі разам з выдавецтвам. Але сёння, упершыню ўзяўшы ў рукі кнігу, быў прыемна ўражаны яе маляўнічасцю, яркасцю».

Таму невыпадкова менавіта гэтая энцыклапедыя падчас дабрачыннага аўкцыёну атрымала статус пастаяннага лота: кожны ахвочы мог, не гандлюючыся, набыць кнігу па стартавай цане. Што да астатніх лотаў традыцыйнага аўкцыёну кніг (сёлета імі сталі рэдкія выданні, якія ўжо нельга набыць у кнігарнях, падарункавыя кнігі і кнігі з аўтографамі аўтараў), то яны былі «разыграныя» ў адпаведнасці з усімі правіламі. Але вядучы, прафесійны аўкцыяніст Аляксандр Бугаеў заўважыў адзін істотны момант: «Летась падчас дабрачыннага кніжнага аўкцыёну быў пастаўлены рэкорд: адзін з лотаў прададзены ў 26 разоў даражэй, чым першапачатковы кошт. Але сёння і гэты рэкорд пабіты! Кнігу старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца «Загад № 1» набылі па кошце ў 53 разы большым, чым стартавы».




Фота Кастуся Дробава

Сам Мікалай Іванавіч, які, паводле ўмоў лота, мусіў паставіць на кнізе аўтограф, сціпла падкрэсліў, што пісьменніку надзвычай складана казаць пра каштоўнасць уласнага твора. Але з упэўненасцю зазначыў: «Калі б на сусветным узроўні адбывалася абмеркаванне самых добрых, светлых і карысных ідэй для правядзення культурных дабрачынных акцый, то беларускі Калядны баль кнігі са святочным аўкцыёнам меў бы ўсе шансы на моцную падтрымку».

Да слова, кніга «Загад № 1» 1985 года выдання была прададзеная падчас аўкцыёну за 8 мільёнаў рублёў. Але гэта не самы дарагі лот. Найбольш каштоўным стаў фотаальбом «Беларусь замкавая» (выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі»): яго фінальная цана — 15 мільёнаў 500 тысяч рублёў. У цэлым падчас аўкцыёну было сабрана каля 100 мільёнаў рублёў, якія стануць выдатным калядным падарункам для сацыяльных дзіцячых устаноў.

Адметна, што традыцыя правядзення Калядных кніжных баляў працягваецца, знаходзіць ідэйную і фінансавую падтрымку ў розных колах грамадства. А для дзетак, якія напярэдадні Каляд атрымаюць каштоўны падарунак, — гэта сапраўдны цуд! Галоўнае — верыць у дабро, у спагаду, у кнігу.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Каляды з мумітролямі

**2014 год у многіх краінах свету прайшоў пад зоркай выдатнай фінскай пісьменніцы і мастачкі, «мамы» сімпатычных мумітроляў Тувэ Янсан. Нагодай для адкрыцця шэрагу выставак, падрыхтоўкі тэатральных пастановак і выдання кніг стала стагоддзе з дня нараджэння мастачкі. Не засталася ўбаку ад шырокіх святкаванняў і Беларусь.**

Так, у перакладзе на беларускую мову выйшла ўжо чацвёртая кніга з серыі пра мумітроляў «Небяспечнае лета» (выдавецтва Зміцера Коласа, пераклад Алесі Башарымавай), гасцямі турыстычнай выстаўкі ў Мінску сталі «паслы» з тэматычнага парка «Краіна мумітроляў» — сам Мумітроль і Малая Мю. А выдатным завяршэннем серыі сустрэч стала перадкалядная вечарына ў Доме Дружбы, прысвечаная юбілею Тувэ Янсан.

Наведвальнікі імпрэзы мелі магчымасць даведацца пра незвычайныя факты, адметныя выпадкі з жыцця Тувэ Янсан, паслухаць расповед перакладчыцы Алесі Башарымавай пра творчасць пісьменніцы і мастачкі, а таксама паўдзельнічаць у адмысловай вікторыне і атрымаць маленькага мумітроля ў падарунак.

Кіраўнік аддзялення Пасольства Фінляндыі ў Беларусі Лауры Пулола ў прывітальным слове зазначыў:

— Сёлета мы сталі сведкамі падзей у розных частках свету, прысвечаных 100-гадоваму юбілею ўсімі любімай пісьменніцы і мастачкі Тувэ Янсан. Гэта таленавітая жанчына працавала ў час залатога веку фінскага мадэрнізму. Яна паспела зрабіць вялікую колькасць розных твораў. Кнігі пра мумітроляў рабіліся ўсё больш папулярнымі. Пісьменніца не толькі пісала гісторыі і рабіла малюнкі, але і ствarала адметную філасофію жыцця сваіх герояў, якая падабаецца не толькі дзецям. Пра мумітроляў пішуць песні, робяць тэатральныя пастаноўкі, фільмы. Кнігі Тувэ Янсан перакладзены на 45 моў свету: мы рады, што іх можна чытаць і па-беларуску.

У Фінляндыі цяпер ёсць манета і марка з выявамі Тувэ Янсан, у яе гонар перайменаваны парк у Хельсінкі. Стагадовы юбілей стаў нагодай і для рэалізацыі больш смелых праектаў. Так, на востраве Пелінкі, дзе сям'я Тувэ Янсан калісьці здымала дом, быў пастаўлены незвычайны спектакль — на аснове паштовак, якія Тувэ разам з сяброўкай Туулікі Піеціля дасылалі на Пелінкі сваім сябрам і знаёмым падчас падарожжаў.

— Замест акцёраў запрошаныя сапраўдныя жыхары горада. Яны ці іх сваякі былі адрасатамі, — распавяла Алеся Башарымава, якая сама была гледачом спектакля. — Па сюжэце героі атрымліваюць паштоўкі ад пісьменніцы, чытаюць іх уголас. У гэты час за іх спінамі адбываецца менавіта тое, што напісана ў паштоўцы. Адметна, што падчас пастаноўкі не было актрысы, якая выконвала ролю самой Тувэ Янсан, бо часта вобразы акцёраў расчароўваюць. Але напрыканцы спектакля, калі вечарэла, сонца апускалася за мора, выплывала лодка, і мы маглі бачыць толькі сілуэты Тувэ Янсан і яе сяброўкі Туулікі. Потым Тувэ Янсан выходзіць з лодкі і пачынае танчыць на камянях. Гэты момант вельмі ўразіў, бо ён — паўтарэнне аднаго з архіўных відэа, дзе Тувэ сапраўды танцавала на скале.

Думаецца, на гэтым знаёмства нашых чытачоў з творчасцю фінскай пісьменніцы Тувэ Янсан не скончыцца. Хутка выйдзе пераклад пятай кнігі з серыі пра мумітроляў. А там і да прадстаўлення ўсіх казак па-беларуску — рукой падаць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Ключы ад маладосці

«5+5+1+1» — па такой формуле пачынаючы з 1988 года вылічвалася колькасць кніг твораў пэўнага жанру, што мусілі пабачыць свет у серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць». За год чытачы атрымлівалі 12 выданняў — па 5 кніг паэзіі і прозы і па адной — публіцыстыкі і крытыкі. На жаль, у 1990-я гады серыя спыніла сваё існаванне, аднак была адноўленая летась акурат да 60-годдзя часопіса. Кнігі з гэтым адметным знакам выходзяць у Выдавецкім доме «Звязда».

Здаецца, прайшло не шмат часу з моманту аднаўлення брэнду, але за гэты час ужо паспелі пабачыць свет тры выданні, прэзентацыя якіх прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Аўтары і рэдактары часопіса распавялі пра кнігі, што выйшлі ў межах адноўленай серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць». Гэта юбілейны праект «Скрозь «Маладосць». Не самая сумная кніжка пра грошы, чорны шакалад, пісьменнікаў і літаратуру», якая пад адной вокладкай аб'яднала ўспаміны супрацоўнікаў рэдацыі часопіса розных часоў і яго пастаянных аўтараў. Выданне атрымалася сапраўды вясёлым, шматгранным і захапляльным. З яго старонак можна даведацца, чаму менавіта фотамайстэрня была «брамай» у рэдакцыю часопіса, хто з галоўных рэдактараў «Маладосці» самы лірычны ў сваіх успамінах, наколькі важна бацькам час ад часу прыводзіць дзяцей на працу (натуральна, калі кіраўніцтва дазваляе).

Пісьменніца Алёна Беланожка прадставіла сваю кнігу «Чамадан з кракадзілавай скуры», якая стала другім выданнем серыі. Алёна распавяла пра тое, як рускамоўны дэтэктыў «патанеў» утрая, ператварыўся ў беларускамоўны і зусім выпадкова разам з аўтаркай трапіў у рэдакцыю «Маладосці». Напачатку гэты твор выйшаў на старонках часопіса, а ўжо праз некалькі гадоў пабачыў свет асобнай кнігай. Алёна зазначыла, што аматарам «вострых» і «пікантных» момантаў у тэкстах лепш пашукаць часопісны варыянт рамана, бо ў час рэдактарскай праўкі для кніжнай версіі многія сцэны былі перапрацаваныя.

Кожная кніга серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» па-свойму парадаксальная. Вось і за наступным выданнем, што выйшла ў яе межах, хаваецца свая гісторыя. Гаворка пра зборнік гісторыка-прыгодніцка-дэтэктыўнай прозы Уладзіміра Мажылоўскага «Праклён мітрапаліта Феафіла». Настаўнік фізікі з Браслава захапляўся вывучэннем мінуўшчыны Беларусі. Ён марыў напісаць падручнік па гісторыі роднага краю, які было б сапраўды цікава чытаць. Падручнік паступова ператварыўся ў раман, паралельна сталі з'яўляцца гістарычныя аповесці і апавяданні, што час ад часу публікаваліся ў літаратурнай перыёдыцы. «Пра выданне кнігі я адпачатку зусім не думаў, — распавёў спадар Уладзімір, — але сталася так, што дзве аповесці і апавяданне, апублікаваныя ў «Маладосці» раней, па прапанове галоўнага рэдактара Святланы Дзянісавай выдадзеныя асобна».

Падзеі твораў Уладзіміра Мажылоўскага адбываюцца ў яго родных мясцінах, старажытным горадзе Браславе ды мястэчку Друя і пераносяць чытача ў далёкія XVI — XVII стагоддзі.

Спадзяёмся, серыя «Бібліятэка часопіса «Маладосць» цягам наступных гадоў будзе папаўняцца ўсё новымі выданнямі. Можа, іх колькасць не дацягне да формулы «5+5+1+1», галоўнае — якасць, аўтарскі талент і інтарэс чытачоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Фоташтрых**



Фота Анжалікі Грэковіч

*Прэм'ера мюзікла Алега Хадоскі «Шалом Алейхем! Мір Вам, людзі!» паводле аповесці «Цяўе-малочнік» Шалом Алейхема ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры выклікала небывалы ажыятаж. Спектакль у пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі Міхаіла Кавальчыка насычаны каларытным габрэйскім гумарам і мудрасцю. Балетмайстар-пастаноўшчык габрэйскіх і рускіх танцаў — народны артыст Беларусі Уладзімір Іваноў. Дырыжор-пастаноўшчык — лаўрэат міжнароднага конкурсу Юрый Галяс, сцэнограф — Андрэй Меранкоў, мастак па касцюмах — Любоў Сідзельнікава, хормайстар — Святлана Пятрова. Наступны паказ мюзікла адбудзецца ўжо ў наступным годзе — 15 студзеня.*

# Атракцыён перформансаў

У беларускай сталіцы адбыўся Фестываль мастацтва перформансу «penAtra(C)tion-5». Назва форуму — гібрыд двух англійскіх слоў: «пранікненне» і «атракцыя». Досвед пранікнення ўнутр сябе часам бывае хваравітым, аднак мастацтва мае сілу пераўтвараць псіхічныя траўмы ў займальны атракцыён.

Сёлетні фэст прысвечаны «ганаровым айцам» беларускага акцыянізму — Каралю Станіславу Радзівілу (Пане Каханку) (1734 — 1790) і Тадэвушу Рэйтану (1740 — 1780), якія жылі амаль у адным месцы і ў той час, калі агульную атмасферу вызначала апакаліптычнае прадчуванне немінучага сконy эпохі. І з гэтым трэба было нешта рабіць! Рэйтан і Радзівіл узялі на ўзбраенне дзейнасць, якую мы сёння назвалі б перформансам. Атрымалася ў іх па-рознаму. Адзін увайшоў у гісторыю ў якасці героя, другі — у сумніўным амплуа «фрыка». Але ў абодвух выпадках засваенне новых жыццёвых практык дазволіла гэтым асобам дзейнічаць, «не згубіцца ў часе», які вымагаў адной толькі пакорлівай пасіўнасці, што падаецца актуальным у любыя гістарычныя эпохі.

Перад тым, як эвалюцыянаваць у асобны фестываль, праграма перформансу «penAtra(C)tion» дэманстравалася ў межах беларускага спецпраекта на IV Маскоўскім біенале сучаснага мастацтва, на «Гогальфэсце» ў Кіеве, «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» і «Даху» — у Мінску. Мэта — адлюстраваць разнастайнасць беларускага перформансу, стварыўшы пляцоўку для выступлення самым розным яго прадстаўнікам. Адны імкнуцца шакаваць гледача, а іншыя разлічваюць на ўзаемаразуменне. Але ўсім уласцівыя выразная «аўтарскасць» ды схільнасць выяўляць не «тут і цяпер», на вачах у публікі. Што, дарэчы, і з'яўляецца мастацтвам перформансу.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Быць!



**Персанальная выстаўка Міхаіла Буліча «Архімары», прымеркаваная да Міжнароднага дня інвалідаў, адкрылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі. На карцінах — нетыповыя сюжэты, незвычайныя вобразы.**

Міхаіл Буліч жыве ў псіханеўралагічным інтэрнаце № 3. Мастаку вельмі цяжка размаўляць. Магчымасць выказацца — творчасць: пра свае думкі, пачуцці, хваляванні ён распавядае мастацкай мовай. «Міхаіл проста не можа не маляваць, яго немагчыма ўявіць без алоўка ды паперы!» — зазначаюць знаёмыя мастака.



Творчасць Міхаіла Буліча — свет самых неверагодных мараў. На карцінах ажываюць дзіўныя істоты ды жывёлы. Работы розныя па настроі: адны — вясёлыя, з яркімі фарбамі, іншыя — меланхалічныя, створаныя больш спакойнымі колерамі. Спачатку можа падацца, што гэтыя карціны дзіцячыя. Магчыма, таму, што людзі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця чымсьці падобныя да дзяцей: такія ж шчырыя і непасрэдныя.

Падчас адкрыцця выстаўкі пад гукі флейты ў руках нямецкага валанцёра Якаба Грутэра госці пазнаёміліся з арт-тэрапеўтам, апякункай Міхаіла Дар'яй Яскевіч, мастаком і аўтарам ідэі.

— Звычайна работы людзей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця выстаўляюцца калектыўна, — распавяла Дар'я Яскевіч. — Таму гэтую выстаўку можна лічыць з'явай унікальнай.

Работы Міхаіла Буліча высока ацэньваюцца ў Еўропе. Творца прэзентаваў іх на міжнародным фестывалі «ДАХ-9».

Выстаўка прымушае паглядзець на свет іншымі вачыма — памяркоўнымі і добрымі... Дзівянтнае мастацтва, наіўнае ды шчырае, моцна жадае — быць!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Магільна — Парыж



Яўген Зак.

Уздзеншчына падарыла свету вялікага мастака. Ён нарадзіўся ў мястэчку Магільна (цяпер Уздзенскі раён Міншчыны) 15 снежня 1884 года ў сям'і рамеснікаў і правёў там, на берагах Нёмана, незабыўныя дзіцячыя гады. Кожны, хто наведае малую радзіму Яўгена Зака, зможа адчуць асаблівую рамантычную атмасферу тых мясцін.

Сваю творчасць мастак звязаў з ідэямі гарманічнага і ідэальнага. Атрымаў узорную па еўрапейскіх крытэрыях прафесійную мастацкую адукацыю ў Варшаве і Парыжы, куды пераехаў у 1901 годзе. Гэта дазволіла адранаму ад прыроды юнаку хутка скарыць еўрапейскія мастацкія вяршыні. Ад сваіх сучаснікаў, якія ў пачатку XX ст. гуртаваліся на Монпарнасе, Яўген Зак адрозніваецца непаўторным класічным метадам выявы вобразаў прыроды і чалавека. Ён стварыў узнёслы, маляўнічы свет, у якім непарушна жывуць і развіваюцца самыя вытанчаныя чалавечыя пачуцці. Мастак пайшоў з жыцця ў Парыжы 15 студзеня 1926 года, але пакінуў жыццесцвярджальныя вобразны свет, у якім заўсёды ёсць месца ціхай радасці, летуценнасці, містычнасці і сардэчнай шчырасці, што робіць асабліва прыцягальнымі яго сціплыя і някідкія на першы погляд творы.

Даволі доўгі час перадача найтанчэйшых зрухаў душы ў кантэксце суполкі «Парыжскай школы» (Я. Зак быў першым з яе стваральнікаў) асацыіравалася найперш з жаночымі партрэтамі А. Мадыльяні. Яўген Зак быў добра знаёмы з гэтым таленавітым мастаком. Іх творчыя пошукі ўзаемна ўзбагачаліся. Жаночыя вобразы, народжаныя трапяткім пэндзлем нашага земляка, не ў меншай ступені нясуць сілу эмацыйнага і эстэтычнага ўздзеяння.

Шчыра кажучы, узнікае пачуццё глыбокага шкадавання, што многія беларускія мастакі і мастацтвазнаўцы не маюць належнага ўяўлення пра «мадонн» Яўгена Зака. Жанчыны ў капялюшыках, хустачках ды накідках. Твары мякка асветлены або злёгку агорнуты празрыстымі ценямі. На вуснах лунае лёгкая загадкавая ўсмешка, ці не «Джаконды» Леанарда да Вінчы?

У пейзажных кампазіцыях Яўген Зак вяртае нас да вытокаў гармоніі. Яго героі толькі вонкава ўспрымаюцца звычайнымі пастухамі, падарожнікамі, закаханымі, камедыянтамі — яны заўсёды стаяць перад сапраўдным маральным выбарам, імкнуцца да праяўлення самых узнёслых памкненняў, заглыбленыя ў асэнсаванне чалавечага прызначэння. Ёсць, вядома, шмат агульнага ў іх характары і настроі з тымі ціхімі і запаведнымі мясцінамі ў вытоках Нёмана, дзе нарадзіўся мастак.

Сёлета на Уздзеншчыне арганізаваны шэраг мастацкіх пленэраў, прысвечаных памяці Яўгена Зака, у якіх бралі ўдзел мінскія і уздзенскія жывапісцы: Андрэй Лычкоўскі, Фёдар Ладуцька, Мацвей Басаў, Мікалай Мішчанка і інш. Можна спадзявацца, што творчасць Я. Зака, мастака чыстай і пранікнёнай душы, заўсёды будзе актуальнай на яго радзіме.

**Яўген ШУНЕЙКА**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Князі на вайне

**Выстаўка «Вялікая і забытая», прысвечаная 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны, працуе ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж».**

У экспазіцыі прадстаўлена каля 500 экспанатаў з прыватных збораў і фондаў музея-запаведніка. Элементы амуніцыі, узоры ўзбраення, рэканструкцыя ўніформы, узнагароды, прадметы салдацкага побыту прадстаўлены групай ваенна-гістарычнай рэканструкцыі «Рубеж», якая аб'ядноўвае брэсцкіх уніфарміставу і краязнаўцаў. Фотаздымкі і паштоўкі тых далёкіх часоў паходзяць са збораў Уладзіміра Багданава — калекцыянера і даследчыка гісторыі Першай сусветнай.



*Летняе абмундзіраванне пехацінца Рускай арміі.*

Паводле дырэктара музея-запаведніка «Нясвіж» Сяргея Клімава, ідэя выстаўкі нарадзілася не адразу — папярэднічала ёй доўгая падрыхтоўчая праца. Сімвалічна, што экспазіцыя створана менавіта ў Нясвіжы, бо падчас Першай сусветнай вайны тут размяшчаліся штабы 2-й і 4-й армій, 9-га армейскага корпуса. Непадалёк ад горада летам 1916 г. праходзіла Баранавіцкая наступальная аперацыя — адна з найбуйнейшых бітваў на тэрыторыі Беларусі. Дарэчы, у ёй браў удзел 4-ты грэнадзёрскі Нясвіжскі полк.

Не засталіся ўбаку ад падзей і князі Радзівілы. У палацы з першых дзён вайны дзейнічаў лазарэт, арганізаваны на сродкі княжацкай сям'і. Лявон Радзівіл быў афіцэрам расійскага Генеральнага штаба, Станіслаў Радзівіл служыў у кавалерыйскіх аддзелах, вызначыўся ў баях на тэрыторы Галіцыі і Беларусі. «Людзі старэйшага пакалення, са школьнага курса гісторыі мала ведалі пра тыя падзеі, — адзначыў Сяргей Клімаў. — Важна, каб для сённяшняй моладзі Першая сусветная вайна не засталася забытай».

Прысутным быў прэзентаваны зборнік дакументаў «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны (1914 — 1918)», падрыхтаваны супрацоўнікамі Нацыянальнага гістарычнага архіва. Пра работу над кнігай расказаў адзін з укладальнікаў, галоўны архівіст аддзела публікацый Юрый Снапкоўскі.

Сустракае наведвальнікаў рускі плакат 1914 г. з надпісам «Мировой пожаръ». Яго стваральнікі, магчыма, і самі не разумелі, якімі прарочымі аказаліся гэтыя словы. На вітрынах прадстаўлены рэдкія калекцыйныя ўзоры нямецкіх і рускіх сталёвых шлемаў, узнагароды, значкі, какарды, раменныя спражкі... Прыцягваюць увагу стэнды з фотаздымкамі франтавой штодзённасці і нямецкія паштоўкі з відамі Брэста, Навагрудка ды іншых гарадоў і мястэчак. Уздоўж сцен — шэраг манекенаў у форме саксонскага артылерыста, баварскага афіцэра, рускага пехацінца і матроса. Не здзіўляйцеся! Менавіта ў Беларусі з 1916 г. дзейнічала Рачная флатылія асаблівага прызначэння, якая вяла бai на Прыпяці і возеры Нарач.

Вось летняе абмундзіраванне пехацінца Рускай імператарскай арміі. На галаве французская каска Адрыяна — шлем спецыяльна распрацавалі ў пачатку вайны для абароны ад асколкаў і шрапнэлі. Летам 1916 г. Расія замовіла ў Францыі два мільёны такіх касак, але рэальна атрымала толькі некалькі соцень тысяч. Каскі ўласна рускай распрацоўкі з'явіліся толькі ў 1917 г. і ў вялікай колькасці ў армію не трапілі. На поясе пехацінца французская фляжка з двума рыльцамі — шырокім і вузкім. Такія фляжкі выкарыстоўваліся ў каланіяльных войсках заходніх краін. Праз шырокае рыльца залівалася вада, а вузкае служыла для піцця.

А яшчэ наведвальнікі выстаўкі могуць зазірнуць у «афіцэрскую кватэру», пабываць на "передавой лініі акопаў», даведацца, як выкарыстоўваўся «французскі цвік» і нямецкі «моргенштэрн».

**Андрэй БЛІНЕЦ**



*Пацыенты і персанал Нясвіжскага лазарэта князёў Радзівілаў.*

**Даведка «ЛіМа»**

Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» падчас калядных канікулаў запрашае патрапіць у атмасферу канца XIX стагоддзя. Наведвальнікаў замка будуць сустракаць князь Антоній Вільгельм Радзівіл з жонкай і заснавальніца нясвіжскіх паркаў Марыя Дарота дэ Талейран дэ Кастэлян Радзівіл. Гасцей палаца чакае цікавая музычная праграма, сюрпрызы ў тэатральнай зале.

Калядная экскурсійная праграма будзе доўжыцца з 2 па 8 студзеня. У гэтыя дні ў Нясвіжскім замку плануюць прыняць 10 — 12 тысяч турыстаў.

З 25 снежня па 11 студзеня (за выключэннем 1 студзеня) комплекс працуе без выхадных.

У наступным годзе спаўняецца 175 гадоў з дня нараджэння Марыі Дароты, і да гэтай даты будуць арганізаваны шматлікія мерапрыемствы. А яшчэ Нясвіжскі замак традыцыйна далучыцца да «Ночы музеяў» і правядзе 14 выставак. Сёлета комплекс прыняў больш як 400 тысяч наведвальнікаў.

---

Спадчына

# Вілейшчына ў паштоўках

Пяць гадоў на Вілейшчыне існуе суполка Таварыства аховы помнікаў. За гэты час праведзена шмат цікавых мерапрыемстваў, выставак, экскурсій, выдадзены брашуры, кнігі па гісторыі Вілейскага краю.

На пачатку жніўня вілейская суполка ТАП і выданне «Волат» аб'явілі фотаконкурс «Спадчына Вілейшчыны», удзельнікам якога мог стаць кожны. Неабходна было толькі даслаць тэматычны фотаздымак на сайт суполкі.

За месяц фотааматары прадставілі амаль 60 работ. Вынікі падводзіліся па дзвюх намінацыях. Першая — прыз глядацкіх сімпатый. (Можна было галасаваць праз сацыяльныя сеткі.) Аўтары дзесяці лепшых работ атрымалі прызы — камп'ютарныя флэшкі і кнігі па гісторыі Вілейшчыны.

У другім туры журы адзначыла дзесятак самых удалых здымкаў, якія найбольш адпавядалі тэме конкурсу. Менавіты гэтыя работы былі надрукаваны на паштоўках і прадстаўлены на выстаўцы ў Вілейскім палацы культуры.

**Дзяніс КАНЕЦКІ**



Фота Міхаіла Кулеша

*Маёнтак Багдановічаў у в. Стайкі.*



Фота Ганны Якуш

*Дыван з в. Каралеўцы.*

# Запрасілі землякі

Нядаўна госцем Лагойскай гімназіі стаў Сяргей Давідовіч, ураджэнец Лагойшчыны, ганаровы грамадзянін. У Лагойску працуе карцінная галерэя С. Давідовіча, дзе прадстаўлены творы жывапісу, скульптуры. Важкія набыткі ёсць і ў розных галінах літаратурнай творчасці: паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Які жанр ні вазьмі, Сяргей Давідовіч працуе плённа, што засведчыла і кніга яго казак «Дзівос з дзівосаў», выпушчаная сёлета выдавецтвам «Мастацкая літаратура».

Шматграннасць таленту С. Давідовіча падкрэслілі падчас сустрэчы яе вядучы, галоўны дырэктар радыё «Беларусь», паэт і празаік Навум Гальпяровіч, рэдактар аддзела навукі, крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя» Алесь Марціновіч.

**Мікола ВАСЬКО**

# Паэт і скульптар

Тыдзень беларускай мовы і літаратуры прайшоў у гімназіі № 39 г. Мінска. Адкрыў яго паэт Хізры Асадулаеў, сын якога летась скончыў гэтую ўстанову.

Спадар Хізры працуе ў некалькіх кірунках. Яго скульптуры можна пабачыць у Дагестане, Маскве, Мінску, Старых Дарогах, Століне... Як перакладчык упершыню перастварыў па-карацінску творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, А. Пушкіна, М. Лермантава, Ф. Цютчава і іншых. Выпусціў альбом песень «Лірыка суровых гор». Х. Асадулаеў яшчэ і член Беларускага саюза мастакоў, Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза музычных дзеячаў, узначальвае Міжнароднае грамадскае аб'яднанне дагестанцаў «Гора».

Госць прачытаў вершы з новай кнігі «Праблiскі таінства», якую падарыў бібліятэцы гімназіі.

**Алена КАСЦЮКЕВІЧ**

# Лепшая старонка жыцця

**Прэзентацыя Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» і канцэрт яго лаўрэатаў адбыліся ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода.**

Арганізатары мелі на мэце прадставіць у сталіцы адзін з найстарэйшых і найбольш адметных айчынных фэстаў, прыцягнуць да яго ўвагу шматлікіх прыхільнікаў народнага мастацтва, сродкаў масавай інфармацыі, кіраўнікоў турыстычных фірм.

Штогод у чэрвені ў г. Паставы з 1991 года праводзіцца фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік», якому ў 1996-м быў прысвоены статус міжнароднага. Ён стаў паспяховым навукова-метадычным праектам па



Цымбалістка Ванда Мацкевіч, салістка ансамбля «Паазер'е».

адраджэнні, развіцці і папулярызацыі нацыянальных і рэгіянальных музычных традыцый. Кожны фестываль можна назваць своеасаблівым ацэначным барометрам творчага ўзроўню, стыляў і кірункаў традыцыйнага і сучаснага народнага мастацтва.

За два дзесяцігоддзі Паставы наведалі калектывы з Літвы, Латвіі, Малдовы, Ізраіля, Кітая, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі, Венесуэлы і інш. Заснавальнікі фэсту —



Фота Яўгена Пясецкага

На сцэне — самая маленькая ўдзельніца прэзентацыі.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама і Пастаўскі райвыканкам.

Гэты музычны форум немагчыма ўявіць без галоўных сімвалаў свята — цымбалаў і гармоніка. Дарэчы, цымбалы ў першапачатковым выглядзе — дыятанічныя — захаваліся толькі ў вёсцы Груздава. Самадзейныя музыкі з Груздаўскага цымбальнага аркестра праславілі Пастаўшчыну на ўвесь былы СССР. Традыцыі тутэйшых музыкаў пераймалі ў свой час мясцовыя калектывы. Паспяхова і мэтанакіравана ў гэтым кірунку працуе і Пастаўская школа мастацтваў.

У нашай краіне праводзіцца шмат фестываляў, але сталічнай публіцы яны не вельмі вядомыя. Чаму б не паказаць дасягненні ўдзельнікаў на больш шырокіх сцэнічных пляцоўках? У Палац культуры МТЗ былі запрошаны лепшыя творчыя калектывы і індывідуальныя выканаўцы — лаўрэаты фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік» розных гадоў. Сярод іх — уладальнік спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» ансамбль народнай музыкі «Паазер'е» з Паставаў, які ў гэты вечар яшчэ раз пацвердзіў званне «Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь», фальклорны ансамбль «Крупіцкія музыкі» з Мінскага раёна, ансамбль старадаўняй беларускай музыкі «Пастараль» з Дзяржынска, фальклорны ансамбль «Дударыкі» і народны ансамбль «Мінскія музыкі» са сталіцы, капэла народных духавых інструментаў «Гуды» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, ансамбль салістаў Нацыянальнага аркестра народных інструментаў Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

У творчае спаборніцтваператварылася выступленне лаўрэатаў традыцыйнага конкурсу «Хто каго?» выдатных гарманістаў М. Слізкага, Б. Харэвіча, М. Папругі, М. Сіняка, М. Касцюкевіча. Зазіхацела фестывальная палітра ўдзельнікаў. І хаця канцэрт выйшаў за межы адведзенага часу, прыхільнікі народнага мастацтва не адпускалі артыстаў. Прыемна, што ў паўнюткай зале, як і на сцэне, было шмат моладзі.

— Высокі творчы і навуковы ўзровень фестывалю падтрымліваецца перш за ўсё ўдзелам цікавых мастацкіх калектываў і выканаўцаў, а таксама дзякуючы аўтарытэтнаму журы: народным артыстам Беларусі Міхаілу Казінцу, Міхаілу Дрынеўскаму і Яўгену Гладкову, загадчыку кафедры Беларускай акадэміі музыкі Мірону Буле, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Аляксандру Крамко і Ларысе Рыдлеўскай, — зазначыў аўтар і каардынатар праекта Тадэуш Стружэцкі.

Многія скептыкі ў свой час прадказвалі фэсту нядоўгае жыццё. Але цікавасць да яго, наадварот, расце. Значыць, цымбалы ды гармонік будуць і надалей гучаць на Пастаўскай зямлі! «Фестываль — не проста музычнае свята, гэта лепшая старонка нашага культурнага жыцця», — падкрэсліў намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама Юрый Кісялёў.

**Раіса МАРЧУК**

# Строі душу бароняць

**Рэспубліканскі семінар «Традыцыйны беларускі касцюм у прасторы і часе: пытанні рэканструкцыі і стылізацыі» прайшоў у Інстытуце культуры Беларусі.**

Больш як 60 спецыялістаў па касцюме — дырэктары дамоў і цэнтраў рамёстваў, метадысты абласных і раённых навукова-метадычных цэнтраў, выкладчыкі і навукоўцы вядучых вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў культуры — бралі ўдзел у семінары. Годна выглядалі падчас адкрыцця семінара ў створаных уласнаручна традыцыйных, гістарычных і шляхецкіх строях студэнты Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка і сталічнай гімназіі № 75.

У беларускім касцюме — перліне народнага мастацтва — захаваліся поўныя характва і мудрасці традыцыі нашага народа. Асабліва строгім і вытанчаным выглядаў святочны касцюм маладзіц да нараджэння першага дзіцяці. «Нібы гатычныя мадонны, павітыя ў бялюткія наміткі, апранутыя ва ўзорыстамаляўнічыя андаракі, велічна і грацыёзна хадзілі яны па роднай зямлі і, як усе жанчыны свету, адчувалі сябе ва ўрачыстых уборах высакароднымі і прыгожымі, шчаслівымі і радаснымі», — гэта выказванне належыць Міхасю Раманюку, навукоўцу-даследчыку, які абышоў усе рэгіёны Беларусі, каб замаляваць характэрныя для іх строі.

Прыгожыя вышываныя касцюмы ў Беларусі апраналі на вялікія святы. Шлюб раней бралі ў вышываных (цяпер гэтая традыцыя памалу вяртаецца). Нарачоная старалася ўпрыгожыць кашулю для свайго каханага, таму што ў вышыванкі свая аўра, што стварае радасны настрой. Арнамент служыць традыцыйным абярэгам, надае сілу і



Дзяўчынка ў строі, характэрным для Любаншчыны

ўпэўненасць, ахоўвае ад сурокаў ды зайздросных вачэй.

Удзельнікі семінара распавялі і пра традыцыйны беларускі касцюм у сучасных сцэнічных і іншых стылізацыях.

**Галіна СУША, спецыяліст аддзела традыцыйнай культуры Інстытута культуры Беларусі, фота аўтара**

***Млын навін***

# Пакалядуем?

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае 27 снежня на свята «Старажытная Каляда». Каляда — назва маладога, зноў народжанага сонца. Па ўяўленні нашых продкаў, менавіта 25-га снежня, у дзень зімовага сонцазвароту, старая зорка памірала, а новая нараджалася. А каб працэс нараджэння адбыўся без перашкод, праводзіліся абрадавыя дзеі. У музеі народнай архітэктуры і побыту можна паўдзельнічаць ва ўзнаўленні як традыцыйнага, хрысціянскага калядавання, так і самых старажытных дзеяў.

У праграме — тэатралізаванае прадстаўленне абраду, дахрысціянскія абрадавыя дзеі: катанне вогненнага кола, распальванне вогнішча ў гонар зноў народжанага сонца — Каляды, майстар-клас па прыгатаванні «Шчодрай куцці» з дэгустацыяй, карагоды і гульні, для малых — дзіцячая пляцоўка і беларуская батлейка.

# Навагоднія гісторыі

Кожны святочны атрыбут мае сваю гісторыю, пра што і распавядае выстаўка ў музеі Гомельскага палацавапаркавага ансамбля.

Цацкі савецкага перыяду, дарэвалюцыйныя паштоўкі і рэдкія ёлачныя ўпрыгожванні пачатку XX стагоддзя — гэта экспанаты з фонду музея і прыватнай калекцыі гамяльчаніна Валерыя Грымашэвіча, якая налічвае больш як 700 ёлачных упрыгожванняў, сотні калядных і навагодніх паштовак і мноства іншых дробязей, звязаных з любімымі святамі.

А дзеці змогуць даведацца, якімі цацкамі прыбіралі лясную красуню іх бабулі і дзядулі. Наведвальнікаў чакаюць інтэрактыўныя экскурсіі, майстар-класы.

# Балотнік чакае гасцей

Бярэзінскі біясферны запаведнік запрашае адзначыць навагоднія святы ў кампаніі… Балотніка. Гэты казачны персанаж — мясцовы талісман — пацешыць турыстаў разам з Дзедам Марозам і Снягуркай.

Міфалагічны персанаж, далёкі сваяк лесуна, атрымаў прапіску на мяжы Мінскай і Віцебскай абласцей тры гады таму. І невыпадкова: больш як палова запаведніка — балоты. Улетку «чырванакніжны» від, балотнік звычайны, сустракае наведвальнікаў на лясных сцежках. Але пад Новы год яму, як паўнапраўнаму гаспадару гэтых мясцін, адведзена вялікая роля ў святочнай праграме.

Напрыканцы лістапада Балотнік пабываў у рэзідэнцыі беларускага Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы, дзе падчас турысцкага свята «Сустрэча Матухны Зімы і Снягуркі» адбылося ўрачыстае адкрыццё Алеі казачнай славы, на якой прадстаўлены скульптуры ўсіх персанажаў — удзельнікаў праекта «Казачная карта Беларусі і Расіі».

Візіт у валадарства Балотніка — альтэрнатыва папулярнай раней навагодняй праграмы ў Зюзі Паазерскага ў Пастаўскім раёне. Але гэты аўтэнтычны персанаж другі сезон запар трымае дзверы сваёй рэзідэнцыі зачыненымі. Таму ў Бярэзінскім запаведніку чакаюць шмат гасцей, не толькі з нашай краіны, але і са Смаленска. Тур уключае экскурсію ў Музей прыроды «Жывёльны свет запаведніка», забаўляльную праграму ля навагодняй ёлкі, наведванне Дома экалагічнай асветы, экскурсію да «Ляснога заапарка», вальераў з дзікімі жывёламі ды інш.

Сёлета Бярэзінскі біясферны запаведнік прыняў каля 33,5 тысячы турыстаў — на 5,4 тысячы больш, чым летась.

# Вяртаецца дзяцінства

Выстаўка «Цацкі, народжаныя ў СССР» працуе ў Лепельскім раённым краязнаўчым музеі. Тут прадстаўлены экспанаты, якія захаваліся ў жыхароў Лепеля.

Дарэчы, крамы «Дзіцячы свет» у 1970 — 1980-х гадах вабілі пакупнікоў велізарным асартыментам цацак для дзяцей усіх узростаў. Сёння гэтыя цацкі адлюстроўваюць эпоху і герояў часу.

Напярэдадні Новага года ў выставачнай зале можна будзе ўбачыць пластмасавую ёлку 1980-х гадоў і патрапіць у мінулае...

**Падрыхтавала Раіса МАРЧУК**

# Навагодняя казка



**Святочная атмасфера пануе на выстаўцы «Музей ёлачных цацак» у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі, пабудаванай у форме лабірынта, прадстаўлена гісторыя вытворчасці ёлачных упрыгожванняў з сярэдзіны XIX стагоддзя па сёння.**

Выстаўка ладзіцца ў Беларусі ўпершыню, дэманструюцца ўнікальныя экспанаты з фондаў музея ды прыватнай калекцыі Андрэя Бегуна. Цацкі сабраныя з усяго свету: Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, ЗША, Афрыкі і Арабскіх Эміратаў. Ёлачныя ўпрыгожванні зробленыя з розных матэрыялаў: шкляныя, драўляныя, металічныя, фарфоравыя і нават саламяныя. Сярод экспанатаў — сапраўдныя рарытэты: шар з каляднага Венскага балю канца XIX стагоддзя, а таксама копія шклянога шара, падараванага Папе Рымскаму Іаану Паўлу II, якая патрапіла ў Кнігу рэкордаў Гінэса за грандыёзны памер.



*Фота Кастуся Дробава*

*«Санта-Эрмітаж».*

Некаторыя шары ўпрыгожваюць шэдэўры сусветнага мастацтва. Збор такіх экспанатаў арганізатары выстаўкі назвалі «Санта-Эрмітажам». На цацках — рэпрадукцыі карцін выбітных мастакоў: Марка Шагала, Івана Шышкіна, Сальвадора Далі, Пабла Пікаса, Віктара Васняцова, Івана Айвазоўскага, Леанарда да Вінчы, Вінсэнта Ван Гога. Дзіўна, але мастакі здолелі захаваць высокую дэталізацыю карцін на маленькай плошчы: дыяметр кожнай цацкі — усяго 120 мм!



Асобная частка экспазіцыі — ёлачныя цацкі савецкага часу: парашутысты з ваты, салдацікі, касмічныя караблі, залацістая кукуруза, ледзяшы, лясныя шышкі, шкляныя пацеркі, героі казак… Шырока прадстаўлены вырабы Клінскай фабрыкі, найбуйнейшай у Расіі, а таксама знакамітай Клаўдзіеўскай, што ва Украіне.

Наведвальнікі Гістарычнага музея пазнаёмяцца з працэсам вытворчасці ўпрыгожванняў. Асноўныя этапы — выдзьмуўка і пасярэбранне, роспіс і афарбоўка — дэманструюцца на вялікіх экранах. Дарэчы, кожны можа ўзяць у рукі пэндзаль і паспрабаваць распісаць цацку. Майстар-класы праходзяць штодзень.

Акрамя гэтага, прадстаўлена калекцыя Дзядоў Марозаў і Санта-Клаусаў, а таксама інтэрактыўны мініяцюрны калядны гарадок, які ажывае, калі націснуць на кнопку. Працуе і святочная пошта: ёсць магчымасць напісаць пісьмо Дзеду Марозу, павіншаваць з Калядамі і Новым годам сяброў ды блізкіх.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Лялькі класа «Люкс»

**Казачныя прынцэсы, мудрыя чараўнікі, загадкавыя лэдзі, эльфы, русалкі ды іншыя прадстаўнікі магічнага свету сабраліся на міжнароднай выстаўцы аўтарскай лялькі «Спадарыня лялька» ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, каб пераканаць скептычнага гледача ў існаванні цуду.**



*Вольга Старынская «Венецыянка».*



*Фота Кастуся Дробава*

*Святлана Бабрук «Мышка-нарушка».*

У чароўны час Калядных свят і Новага года сталічная Майстэрня аўтарскай лялькі і творчы цэнтр Artexpo аб'ядналіся, каб падарыць наведвальнікам падарожжа ў свет лялек класа «Люкс».

— На выстаўцы прадстаўлена каля 70 лялек. Гэта працы беларускіх і расійскіх аўтараў. Тут можна ўбачыць і сучасныя вырабы, і антыкварныя, якія святкуюць сваё стагоддзе, — паведаміла кіраўнік мінскай Майстэрні аўтарскай лялькі Ірына Ражко.

Будуарная лялька невыпадкова займае цэнтральнае месца ў экспазіцыі. Як падкрэсліла І. Ражко, цікавасць да гэтага вырабу як з боку аўтараў, так і гледачоў узрастае. Упершыню такая лялька была створана ў Францыі пасля Першай сусветнай вайны. Сапраўдныя фарфоравыя творы былі вельмі дарагія, і цацачныя фабрыкі сталі рабіць іх з кампазіту, пап'е-машэ, абцягваючы шоўкам. Гэта былі яркія персанажы: марачкі, шансанье, танцоркі. Сёння будуарная лялька — як правіла, дама ў шматслойным пышным убранні.

Упрыгожваннем выстаўкі сталі працы вядомай расійскай мастачкі — Галіны Захаравай, якая з'яўляецца і віртуальным куратарам праекта. Адна з лялек творцы заняла пачэснае месца на афішы мерапрыемства. Можна ўбачыць і каля 50 акварэльных работ «Сны з брытанскіх выспаў» Тацяны Пучковай, выкананых спецыяльна для праекта «Бясконцая кніга», якімі прыдумала ілюстратар Наталі Раткоўскі.

Дарэчы, наведаць выстаўку, якая будзе доўжыцца да 11 студзеня, мае сэнс не адзін раз, бо яе галоўныя героі будуць пастаянна мяняцца. Як патлумачыла Ірына Ражко, напярэдадні свят аўтарскія лялькі вандруюць з аднаго мерапрыемства на іншае, у выніку экспазіцыя папоўніцца новымі вырабамі. Па выхадных у Нацыянальным гістарычным музеі пройдуць творчыя сустрэчы з майстрамі, якія пакажуць, як ствараецца лялька, і адкажуць на пытанні наведвальнікаў.

**Тацццяна ШЧЭРБА**

# Мядовы рой

Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва прадставіла ўвазе гледачоў творчасць беларускага мастака Алеся Квяткоўскага ў межах яго персанальнай выстаўкі «Зімовыя сны пчол».

...У прадчуванні халадоў мядовыя фарбы жывапісных палотнаў Алеся Квяткоўскага становяцца асабліва прывабнымі. Вулей, соты ўяўляюцца аўтару сімвалічным адбіткам жыцця. Пчаліны рой асацыюецца з сонцам як жыццёвым пачаткам. Старанна аберагаючыся ад знешніх нягод і зімовай непагадзі, пчолы спяць і ў чаканні вясны бачаць дзіўныя сны...

Творчасці Алеся Квяткоўскага ўласцівая высокая дэкаратыўнасць, лаканічнасць і выразнасць, асаблівы паэтычны сімвалізм. Часта яго карціны нараджаюцца ў сімбіёзе з паэзіяй па матывах тых ці іншых твораў. Так, падставай для ўзнікнення «мядовай» серыі стаў адзін з вершаў Анатоля Сыса «Начаваў я ў вуллі...». Усяго на выстаўцы прадстаўлена 30 работ.

Алесь Квяткоўскі (творчы псеўданім Квят) нарадзіўся ў 1952 годзе ў Валожыне. Скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў, аддзяленне манументальнага жывапісу. Больш як 20 гадоў жыцця аддаў эстэтычнаму выхаванню дзяцей і моладзі, кіраваў студыяй «Квецень», шмат гадоў выкладае выяўленчае мастацтва на архітэктурным факультэце БНТУ. Працы аўтара знаходзяцца ў дзяржаўных і прыватных калекцыях Беларусі, Украіны, Францыі, Германіі, Швейцарыі, Ірландыі, Індыі ды інш.

**Тацццяна ШЧЭРБА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Тацццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ».
Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца.
Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2273.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.12.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4969.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686